PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 30 (2202) Год XLIII Беласток 26 ліпеня 1998 г. Цана 1,20 зл.

## Без рэстрыкцый

Польшча не будзе прымяняць візавыя рэстрыкцыі ў адносінах да Беларусі, хаця салідарызуецца з рашэннем Еўрапейскага Саюза ў гэтай справе, — сказаў на прэс-канферэнцыі міністр замежных спраў Браніслаў Герэмэк пасля аб'яўлення краінамі ЕС забароны выдаваць уязныя візы 131 высокаму беларускаму чыноўніку.

Міністр паведаміў таксама, што гэтае рашэнне прыняў ён пасля кансультацый з прэм'ер-міністрам і прэзідэнтам краіны. Шэф польскай дыпламатыі заявіў: „Беларусь — гэта краіна, з якой жывём у суседстве. Каб прыняць рашэнне аб парванні дыпламатычных зносін, Польшчы трэба было б развaжыць усе звязаныя з гэтым кошты. Таксама ўлічыць інтарэсы палякаў, якія жывуць у Беларусі. Апрача таго Польшча старшынствуе АБСЕ. Я адкрываў місію АБСЕ ў Мінску. Гэта важная місія, якая заступаецца за правы чалавека, а тыя ў Беларусі парушаюцца. У справе пазіцыі Польшчы я звязаўся з міністрамі замежных спраў — аўстрыйскім, французскім, нямецкім і брытанскім. Перадаў я ім наша рашэнне, якое было прынята з поўным зразуменнем".

Прэс-сакратар МЗС Беларусі Ігар Палуян станоўча аднёсся да польскага рашэння і падкрэсліў, што Польшча і Беларусь з'яўляюцца суседзямі і таму ў нейкі спосаб яны прыгавораны на добрыя адносіны. Намеснік старшыні БНФ Сяргей Папкоў адзначыў, што Польшча не павінна разлічваць на ролю пасрэдніка паміж Мінскам і Захадам, бо цяперашні прарасійскі рэжым не пакарыстаецца такой магчымасцю.

[*болей* ☞ **2**]

## Таннейшыя візы

Міністэрства замежных спраў, пачынаючы з 1 жніўня г.г., уводзіць больш карысныя візавыя аплаты для грамадзян Расіі і Беларусі, якія стараюцца атрымаць польскую візу.

Кошт шматкратнай візы складзе 14 доляраў ЗША (цяпер яна каштуе 60 дол.), а аднакратнай — 5 доляраў ЗША (цяпер — 20).

Аблягчэнні прымаюцца з думкай пра грамадзян Расіі і Беларусі, якія прыязджаюць у Польшчу ў гандлёвых і гаспадарчых мэтах.

Міністэрства замежных спраў прыпамінае, што не мяняюцца прынцыпы выезду польскіх грамадзян у Расію і Беларусь.

У службовыя камандзіроўкі можна выязджаць на падставе пячаткі „AB" у пашпарце. Для турыстычных паездак апрача пашпарта неабходны ваўчары, якія пацвярджаюць аплату кватэры і харчавання за мяжой. Асобы, якія наведваюць сваякоў або знаёмых, могуць перасякаць мяжу на падставе пашпартоў і запрашэнняў для часовага ўезду.



*Сена яшчэ ляжыць.* Фота Уладзіслава ЗАВАДСКАГА

# Беларускае свята ў Шастакове

**Аляксандр Вярбіцкі**

У нядзелю 12 ліпеня ў Шастакове Чыжоўскай гміны адбыўся народны фэст, XI Свята беларускай культуры, арганізаваны тамашнім самаўрадам, а дакладней кажучы: Управаю гміны і Гмінным асяродкам культуры з Чыжоў ды Салэцкаю радай вёскі Шастакова.

З'явіўся я ў Шастакове недзе за паўгадзіны да пачатку святкавання (*festum* — гэта па-латыні *свята*). У клубе ўжо ўвіхаліся арганізатары. Пабачыўшы мяне, незнаёмага ім разяваку, пацікавіліся мною энергічныя дырэктар ГмАК з Чыжоў Юры Якімюк і солтыс Шастакова Міхал Мароз. Пасля знаёмства з імі падаўся я на вёску. Шастакова, гэта вёска невялічкая, распалажаная быццам на ўскраіне — нейкі кіламетр ад бельска-гайнаўскай шашы. Ціхенька тут і прыемна, поўна сакавітай зелені. Шмат хатаў па-даўняму ўпрыгожана ажурнымі драўлiннымі наваконнымі і шчытавымі аздобамі. Прысеў я да дзвюх жанчын, што сядзелі на лавачцы, крыху распытаць пра вёску. У вёсцы каля сарака хатаў, ёсць ужо і некалькі пустых, якіх уласнікі перабраліся ў горад. Ды яшчэ многія не шукаюць „лёгкага" хлеба ў недалёкай Гайнаўцы, але гаспадараць.

Глянуўшы ў бок клуба, дзе ўжо стаяла аб'язная крама, адна з жанчын сказала:

— Калісь у нашу вёску многа *рускіх* прыязджала: усе платы абвешвалі сваімі таварамі. А сёння едуць вельмі рэдка, ды і гарэлку толькі прапануюць.

Гарэлка і ў нас, быццам у індзейцаў ці аўстралійскіх абарыгенаў, дапамагае Кастусе. Гэтая з'ява не мінавала і Шастакова, дзе памерлі некалькі нестарых яшчэ мужчын. Мо і не ад яе, але ж за каўнер яны не выліваді.

Да маіх субяседніц падышла жанчына са спіскам. Гэта прыхаджане Новаберазоўскага прыхода, да якога належыць і Шастакова, падпісваліся пад падзякай уладам Царквы за вяртанне ў іхны прыход дагэтуляшняга настаяцеля. Калі ў абавязкі мітрапаліта ўступіў архіепіскап Сава, дык ён адразу зрабіў зрух у кліры. І тая яго новая мятла кранула і новаберазоўскага настаяцеля: генерал перавёў яго ў другое месца службы. Тады прыхаджане сталі хадайнічаць за вяртанне свайго пастыра, бо ён вельмі дбаў пра свой прыход; раней, перад ім, быў такі, што прыходам не надта турбаваўся. Ездзілі прыхаджане куды толькі, ну і выхадайнічалі вяртанне святара, які з павагаю адносіўся да сваіх абавязкаў і перад Богам, і перад людзьмі.

Фэст адбыўся ў вясковым клубе. Над сцэнаю, побач транспаранта з прывітаннем на беларускай мове, красаваліся бела-чырвоны і бел-чырвона-белы сцягі. Залу клуба шчыльна запоўнілі шастакоўскія гледачы, але было і крыху народу з суседніх вёсак. Атмасфера сямейная, усе радасна вітаюцца з сабою, пасвяточнаму, бо сёння ж не адно толькі Пятра і Паўла, але бадай і галоўная ў сезоне гмінная ўрачыстасць. Пра яе вось

[*працяг* ☞ **8**]

## Малады гаспадар

Калі я закончыў вучобу ў механічным тэхнікуме і ажаніўся, не ведаў яшчэ ці ўвогуле застануся на вёсцы. Думаў тады пра Бельск, але бацька перапісаў некалькі гектараў зямлі, даў трактар і так пачалося. Тады ў 1992 годзе намнога лягчэй было пачынаць гаспадарыць, — кажа Юрка Ялоза са Стараберазова. — Ужо ў 1993 годзе працаваў я на 75 гектарах. Пачаў купляць трактары, камбайны, машыны, браў у арэнду штораз больш зямлі, а пасля яе купляў і так павялічвалася гаспадарка.

[*расказ аб гаспадарцы* ☞ **3**]

## Крама

Крама ў С. зачыняецца часам каля поўначы, калі апошні пакупнік выпаўзе за дзверы. Пані Лідка, хаця і жанчына, на якой свой адбітак пакінула амаль паўстагоддзя гісторыі, ва ўмовах капіталізму дзейнічае вельмі паспяхова. Большасць грошай, якія прывозіць пенсіянерам пісьманосец, трапляе ў яе „фіскальную касу". Большасць бычкоў, якія пасуцца на лугах вакол С., пяройдзе таксама цераз Лідчыну касу.

[*вясковы абразок* ☞ **3**]

## Было такое свята

Дзень 27 ліпеня стаў святам незалежнай Беларусі. Хаця апазіцыя дэманстратыўна спасылалася на традыцыю 25 Сакавіка, у свеце наогул адабрылі беларускую дзяржаўнасць, узніклую ў 1990 годзе. 27 ліпеня ў пасольстве Рэспублікі Беларусь у Варшаве тагачасны пасол Уладзімір Сянько вітаў найважнейшых асоб палітычнага жыцця Польшчы і дыпламатычных прадстаўніцтваў з цэлага свету. Гэты дзень стаў сапраўды вялікім святам народа, які вяртаўся з вялікага нябыту і пачынаў вучыцца самастойнага жыцця ў шматкалярoвай Еўропе

[*нарыс* ☞ **4**]

## У пошуках гармоніі Бельска

Працы мастака Алега Кабзара, паэзія Надзеі Артымовіч і Ежы Плютовіча склаліся на кніжку пра Бельск. Першапачаткова меўся выйсці толькі каталог выставы карцін Алега Кабзара ў бельскай ратушы. Шчасліва, дзякуючы грошам Беларускага саюза і Культурнай праграмы „Бельск-Падляшскі — сэрца памежжа", каталог пераўтвараўся ў цікавую кніжку, якая, паводле аднаго з выдаўцоў, Дарафея Фіёнка, паказвае нам гармонію духоўнай і матэрыяльнай прасторы горада.

[*рэцэнзія* ☞ **5**]

# Беларусь — беларусы

У „чорным спісе" — 131 чыноўнік

## Сядзі ў Драздах!

**Краіны Еўрапейскага Саюза (15 дзяржаваў) прынялі рашэнне не выдаваць візы беларускім чыноўнікам. У „чорным спісе" першым стаіць прэзідэнт Лукашэнка, а следам за ім яшчэ 130 персонаў.**

10 ліпеня часова павераныя ў справах Германіі, Францыі, Вялікабрытаніі, Італіі і Грэцыі зрабілі дэмарш Міністэрству замежных справаў. Яны запатрабавалі ад беларускіх уладаў стварыць нармальныя ўмовы для прабывання паслоў у рэзідэнцыях у Драздах. Дыпламаты перадалі кіраўніку беларускага знешнепалітычнага ведамства Івану Антановічу спіс дзяржаўных служачых, якім не будуць выдавацца ўязныя візы ў краіны Еўрасаюза. Пад санкцыі трапіла ўся беларуская „вярхушка" на чале з Лукашэнкам. У прыватнасці, краіны ЕС не пусцяць на сваю тэрыторыю кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Міхаіла Мясніковіча, дзяржсакратара Савета бяспекі Віктара Шэймана, „заўхоза" Івана Ціцянкова, віцэ-прэм'ера Уладзіміра Замяталіна, шэфа дэпартамента па гуманітарнай дапамозе Віктара Кучынскага, памочніка прэзідэнта Урала Латыпава і многіх іншых. Без візы таксама засталіся ўсе члены беларускага ўрада разам з прэм'ер-міністрам Сяргеем Лінгам. Асабліва падабалася падарожнічаць па заходніх краінах міністру Івану Антановічу і ягоным намеснікам, якія апантана прабівалі ізаляцыю рэжыму. Цяпер вароты на Захад для кіраўнікоў знешнепалітычнага ведамства таксама зачыніліся.

Дзяржаўныя служачыя нервуюцца і выказваюць абурэнне санкцыямі Еўрасаюза. У інтэрв'ю Інтэрфаксу шэф прэзідэнцкай адміністрацыі М. Мясніковіч прызнаўся, што „абмежаванне кантактаў на такім высокім узроўні нявыгаднае ні палітычна, ні эканамічна". (...)

**У Польшчу і Літву ехаць можна**

Чакалася, што да санкцыяў далучацца Польшча і Літва. Гэтыя краіны атрымалі з брусельскай штаб-кватэры Еўрасаюза спіс з прозвішчамі беларускіх чыноўнікаў. Аднак Варшава лічыць, што для Польшчы такі крок „немэтазгодны".

Літва таксама вырашыла не ўводзіць візавыя санкцыі ў дачыненні да беларускіх чыноўнікаў. (...)

**Пазіцыя Мінска**

Міністэрства замежных справаў распаўсюдзіла афіцыйную заяву, у якой сцвярджаецца, што атмасфера вакол Драздоў „нагнятаецца штучна". Беларускі бок лічыць, што Захад выкарыстоўвае „адносна прыватную праблему як падставу для беспрэцэдэнтна шырокамаштабнага палітычнага ціску на суверэнную Беларусь". Аднак, „Рэспубліка Беларусь і ў далейшым мае намер кіравацца сваімі законамі і нарматыўнымі актамі".

Атрымліваецца, што афіцыйны Мінск не збіраецца выконваць Венскую канвенцыю аб дыпламатычных зносінах? Хутчэй за ўсё так яно і ёсць. Пра гэта недвухсэнсоўна сказана ў апошнім абзацы заявы: „МЗС упаўнаважаны заявіць, што ўзаемапрымальнае рашэнне дадзенай праблемы можа быць знойдзена толькі на аснове раўнапраўнага дыялогу і безумоўнай павагі суверэннага права Рэспублікі Беларусь прымаць рашэнні ў адпаведнасці са сваім нацыянальным заканадаўствам і дзяржаўнымі інтарэсамі".

Алесь Дашчынскі
Андрэй Пракаповіч
*„Навіны" № 74, 14.07.1998 г.*

## Еўрапейская пілігрымка

***(нататкі аб святкаванні 80-х угодкаў БНР у беларускім замежжы)***
*(працяг; пачатак у 29 н-ры)*

**Варшава**

У Варшаве я сустрэлася са сваімі паплечнікамі ў будучым падарожжы, якія тым часам паспелі выехаць з Мінска і ўжо пераначаваць у Польшчы дзякуючы сяброўскай дапамозе Янкі Заброцкага, добрага чалавека і шчырага беларуса. Сп. Янка стварыў у Варшаве ўласнымі сіламі Цэнтр славянскіх культур на вул. Гагарына, 15. Сёння ён робіць прыватна вельмі важную справу для Беларусі — папулярызуе і распаўсюджвае ў розных краінах беларускую кнігу. Раніцаю, 22 сакавіка, сабраліся ў Цэнтры, абмяняліся навінамі, пагаварылі аб патрэбах Цэнтра, чым неабходна дапамагчы з Беларусі, дамовіліся аб далейшым супрацоўніцтве. Перш, чым пакінуць Варшаву, сп. Янка прапанаваў завесці нас у праваслаўную царкву, куды ходзяць на службу мясцовыя беларусы. Была нядзеля і сапраўды пабачылі мы там нашага знаёмага пісьменніка Янку Жамойціна. Пры царкве могілкі, на якіх нядаўна пахавалі адшноўшага ў лютым мітрапаліта Васілія, што ўзначальваў Праваслаўную царкву ў Польшчы. З пашанаю схілілі галовы перад светлаю памяццю гэтага добрага спрыяльніка беларусаў. Паразважалі аб тым, хто можа быць яго наступнікам, для беларусаў — гэта немалаважнае пытанне. Праваслаўная царква аб'ядноўвае нашых суродзічаў у Польшчы, супроцьстаіць акаталічванню, а тым самым іх асіміляцыі.

**Транзітам на Захад**

Далей наш шлях скіраваўся на Захад. За дзень праехалі ўсю Польшчу, без вялікіх перашкодаў адолелі мяжу з Нямеччынаю і начавалі ўжо ў Магдэбургу, у гатэлі. На жаль, у гэтым рэгіёне краіны не выявіліся нацыянальна свядомыя землякі-беларусы і адчувалі тут сябе зусім чужымі. На наступны дзень таксама праехалі межы адну за адной — спачатку з Галандыяй, потым з Бельгіяй. Нашы транзітныя шэнгенскія візы дазвалялі беспершкодна праязджаць па сямі еўрапейскіх краінах. Межы адчынены, няма ніякага кантролю, аб тым, што мы перасякаем мяжу сведчыць толькі прыдарожны надпіс з назваю краіны. Прыемныя ўражанні пакінула Галандыя — маленькая і вельмі дагледжаная краіна. Яшчэ раз пераконваюся ў тым, што добры парадак можа існаваць хутчэй за ўсё ў невялікай краіне, што даглядае сябе сама, жыве сваім розумам.

Хутка даехалі да мяжы з Бельгіяй і скіроўваемся ў Антверпен. Там жыве цудоўная беларуская жанчына Зоя Смаршчок (Жэлязоўская). Яе гасцінная кватэра і дала нам начлег. Сп. Зоя прыветна сустрэла немалую нашу грамаду і для ўсіх у яе знайшлося прыветнае слова, месца за сталом і для адпачынку. У хаце ўсё беларускае, сваё, знаёмае. Сп. Зоя і яе муж Яўген пасяліліся ў Бельгіі пасля вайны. Сп. Яўген памёр у 1984 г., ён быў святаром і педагогам, родам з Зэльвы на Гродзеншчыне, што за 20 км ад маёй радзімы. Зоя паходзіць з Навагрудчыны. Уся наша эміграцыя з Заходняй Беларусі ці з Палесся. У іх двое сыноў. Андрэй жыве ў Антверпене, а Пятро — у Мюнхене, раней працаваў на Радыё „Свабода". Сп. Зоя аптэкар па адукацыі, скончыла Лювэнскі універсітэт. Раніцаю разам з ёю паехалі мы ў Лювэн, які кожнаму беларусу абыходзіць нельга. Тут знаходзіцца вядомы універсітэт, дзе вучыліся многія беларусы пасля вайны. У Лювэне пахаваны кампазітар Мікола Равенскі, аўтар нашага знакамітага гімна „Магутны Божа". Мы пабывалі на магілках, ушанавалі яго памяць, прачыталі малітву. Ад Лювэна да Бруселя ўсяго 30 км і немагчыма было хоць на некалькі гадзін не заехаць у гэты горад, дзе таксама існуе беларуская суполка, якою кіруе Янка Жучка. Самога Янкі ў гэты час дома не было, ён знаходзіўся ў Празе, дзе сустракаліся з ім на святкаванні. Брусель сёння важны палітычны цэнтр Еўропы. Для нас істотна, што там знаходзіцца прадстаўніцтва беларускага дэмакратычнага руху „Хартыя-97". Але мы не мелі магчымасці даўжэй затрымацца ў гэтым прыгожым горадзе. Патрэбна было яшчэ да вечара даехаць да Лондана.

***(працяг будзе)***

Ганна Сурмач

## Са статусам эмігранта

21 красавіка 1998 года на кантрольным гранічным пункце ў Кузьніцы-Беластоцкай малады магілёўчанін Ян Абадоўскі заявіў пагранічнікам, што хоча атрымаць палітычны прытулак у Польшчы. Прычынай такога рашэння сталі ўзбуджэнне супраць яго двух крымінальных спраў за ўдзел у патрыятычных дэманстрацыях і трэцяй — за надпісы на мурах ды выключэнне з Магілёўскага машынабудаўнічага інстытута. Каб пазбегчы арышту, трэба было ўцякаць з Беларусі.

15 чэрвеня дырэктар Дэпартамента па справах міграцыі і бежанства Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі падпісаў рашэнне аб прысваенні Яну Абадоўскаму статусу палітычнага бежанца ў адпаведнасці з Жэнеўскай канвенцыяй 1951 года і Нью-Йоркскім пратаколам 1961 года. Юнаму палітэмігранту былі выдадзены таксама падарожны дакумент, дазвол на двухгадовае пражыванне ў Польшчы і карта часовай пабыўкі.

Ян Абадоўскі жыве ў Беластоку. У кастрычніку стане ён студэнтам Беластоцкага політэхнічнага інстытута. Цяпер удзельнічае ў курсах польскай мовы для чужаземцаў, якія адбываюцца ў Варшаўскім універсітэце.

(вл)

## У самы разгар свята

Пяць актывістаў Хартыі-97 правялі 3 ліпеня ў Мінску акцыю ў знак салідарнасці з беларускімі палітзняволенымі.

Разгарнуўшы транспарант „Свободу политзаключенным!", хартысты прайшлі праз увесь цэнтр горада да плошчы Незалежнасці. Сведкамі гэтай акцыі сталі дзесяткі тысяч людзей. „Мы хацелі, — сказаў кіраўнік прэс-службы Хартыі-97 Алег Бебенін, — каб людзі не забываліся, што сёння ў Беларусі па палітычных прычынах за кратамі знаходзяцца тры чалавекі — студэнт Аляксей Шыдлоўскі, дэпутаты Андрэй Клімаў і Уладзімір Кудзінаў. Акрамя таго, каля 10-ці чалавек атрымалі «за палітыку» ўмоўныя тэрміны зняволення".

Б. П.
*„Навіны" № 71, 7.07.1998 г.*

## Прэзідэнт вінаваты асабіста

Міжнародная праваабарончая арганізацыя Human Rights Watch апублікавала 2 ліпеня чарговы даклад аб сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі.

Арганізацыя лічыць, што Аляксандр Лукашэнка, прэзідэнцтву якога на наступным тыдні пойдзе пяты год, вяртае Беларусь у эпоху рэпрэсіяў савецкага перыяду. „У той час, калі Усходняя Еўропа вызваляецца ад рэпрэсіяў савецкай эпохі, Беларусь паварочвае час назад, — заявіла Холі Картнер, выканаўчы дырэктар Еўрапейскага і Цэнтральнаазіяцкага аддзялення Human Rights Watch. — Лукашэнка асабіста мае дачыненне да парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі".

У сваім дакладзе арганізацыя заклікае Савет Еўропы не аднаўляць Беларусь у статусе спецыяльна запрошанага. Human Rights Watch рэкамендуе беларускаму ўраду: неадкладна вызваліць палітычнага зняволенага Аляксея Шыдлоўскага, а таксама змяніць меру стрымання парламентарыю Андрэю Клімаву, забяспечыўшы яму права на справядлівы суд; вызваліць Тамару Вінікаву, былога старшыню Нацбанка, з-пад хатняга арышту і забяспечыць ёй права на справядлівы суд; распачаць расследаванне масавых арыштаў і збіванняў дэманстрантаў вясною 1997 года і прыцягнуць вінаватых да адказнасці; не дапускаць затрыманняў непаўналетніх і паважаць міжнародную Канвенцыю аб правах дзіцяці; распачаць расследаванне па фактах збівання і запалохвання прадстаўнікоў апазіцыі супрацоўнікамі службы дзяржбяспекі і прыцягнуць вінаватых да адказнасці; адмяніць папраўкі да Закона аб друку і іншых СМІ, у прыватнасці, тыя палажэнні, якія абмяжоўваюць права на бесперашкоднае атрыманне і распаўсюджванне інфармацыі, і тыя, якія прадугледжваюць крымінальнае пакаранне за прыніжэнне гонару і годнасці службовых асобаў.

БелаПАН
*„Навіны" № 71, 7.07.1998 г.*

# Маладыя гаспадар

Юрку Ялозу, гаспадара са Стараберазова, сустракаю, калі раўняе зямлю на новым панадворку. У лютым г.г. пераехаў ад бацькі ў новапабудаваны мураваны дом, дзе жыве з жонкай Алінай і дачкой Наталькай.

— Калі я закончыў вучобу ў механічным тэхнікуме і ажаніўся, не ведаў яшчэ ці ўвогуле застануся на вёсцы. Думаў тады пра Бельск, але бацька перапісаў некалькі гектараў зямлі, даў трактар і так пачалося. Тады ў 1992 годзе намнога лягчэй было пачынаць гаспадарыць. Калі абанкруціліся пэгээры (саўгасы) зямлі можна было браць у арэнду колькі хочаш. Машыны таксама танна прадавалі, дык вырашыў гаспадарыць, — кажа Юрка. — Ужо ў 1993 годзе працаваў я на 75 гектарах. Пачаў купляць трактары, камбайны, машыны, браў у арэнду штораз больш зямлі, а пасля яе купляў і так большала гаспадарка.

Зараз у Юркі Ялозы 185 гектараў зямлі (каля 100 гектараў уласнай, рэшта — арэндная). Апрача ваколіц Стараберазова мае ён зямлю, перад усім, каля Койлаў, Новага Корніна і Збуча. Каб справіцца з такой колькасцю зямлі, купіў яшчэ чатыры трактары („Кіравец", „Урсус", „Беларус" і два МТЗ-ы), два камбайны і ўсе машыны патрэбныя да сяўбы і ўборкі збожжа.

— У гэтым годзе ў мяне 27 гектараў цукровых буракоў, недзе каля паловы абсеяў пшаніцай, а ў іншых месцах — ячмень і жыта. Было таксама больш травы, бо думаю пачаць у Койлах гадоўлю кароў (у будынках, што раней належалі пэгээру з Новаберазова — А. М.), — далей расказвае Юрка. — Але пакуль што стрымаўся з рашэннем, калі прыгледзеўся, якія ўмовы ставяць малочныя кааператывы. Гаспадары ўжо звыкліся з тым, што трэба халадзіць малако і дбаць, каб яно было чыстае, а тут новыя ўмовы, у якіх я добра і не разбіраюся. Калі агледзелі кароў майго сябра то аказалася, што на чатырнаццаць толькі тры даюць малако высокага класа. Каровы зараз патанелі, але страшна купляць без ветэрынарнага агляду, бо што ж пасля з малаком рабіць.

Калі пачынаецца праца ў полі, у спадарства Ялозаў працуе яшчэ адзін працаўнік, а ў час самога жніва бяруць яшчэ некалькі рабочых на дапамогу.

— Калі „Уладзімірцам" гектар зямлі трэба араць адзін дзень, то „Кіраўцам" за дзень гектараў дванаццаць можна заараць і тады з дапамогай яшчэ аднай асобы можна справіцца, — кажа мой суразмоўца. — Зараз, калі збожжа так патаннела, а ўгнаенні так падаражэлі, маючы 10 гектараў цяжка развіваць гаспадарку. Таму ў ваколіцы зямля яшчэ і не такая дарагая, у сярэднім па 2-2,5 тысячы злотых за гектар. Але ў нас у Старaберазове людзі пачалі цаніць зямлю, ужо і кусочак цяжка купіць.

Спадар Ялоза інфармуе, што недзе трэцюю частку збожжа прадае адразу ў час жніва, а ўсё апошняе трымае ў сваіх складах у Койлах.

— Калі сёння такі малы прыбытак ад гектара зямлі, то гаспадарыць лепш аплачваецца, калі маецца больш зямлі, або займаючыся гадоўляй. Хаця Стараберазова і Махнатае вёскі вялікія і задбаныя, то маладых таксама мала засталося. Зараз няма дзяцей і ў школе ў Махнатым праз два гады не будзе нулявога класа. Гаворачы пра гаспадароў, у якіх больш зямлі, дык трэба ўспомніць Мікалая Галёнку з Махнатага, у якога недзе пад 30 гектараў, Яна Трашчотку і Мікалая Кубайчука са Стараберазова, — расказвае далей Юрка. — Калі ўвойдзем у Еўрапейскі Саюз на нармальных умовах і будуць датацыі, то і наша сельская гаспадарка будзе развівацца, але калі будуць абмежаванні з датацыямі для нас, дык не стрымаем датаваную канкурэнцыю з Захаду. Здаровая сельская гаспадарка гэта такая, калі аплачваецца браць крэдыт і купляць зямлю, развіваць жывёлагадоўлю і гаспадарку. Зараз у нас крэдыты дарагія, а прыбытак малы, таму і цяжка на вёсцы. Аднак зямля, усё ж такі — капітал, і калі б была яна ў нашай ваколіцы ў большых кавалках, я б яшчэ гектараў 100 купіў адразу!

**Аляксей Мароз**

# Крама

У вёсцы С., што ў Нарваўскай гміне, былы пісьманосец Ваня В. меў на пачатку сямідзесятых гадоў 130 падпісчыкаў „Нівы". „Газету чыталі нават «мазуры», — кажа Ваня, — і я таксама чытаў. З усіх журналістаў найбольш падабаўся мне Дзядзька Квас. Пісаў усё так, як было ў жыцці". Цяпер пісьманосец — рэдкі госць у вёсцы. Прыязджае ён звычайна раз у месяц раздаць пенсіі былым чытачам „Нівы". Калісь найважнейшай установай у вёсцы была школа, цяпер — крама. Апошнія выпускнікі школы праводзяць там амаль штодзённа свае з'езды.

Крама ў С. зачыняецца часам каля поўначы, калі апошні пакупнік выпаўзе за дзверы. Пані Лідка, хаця і жанчына, на якой свой адбітак пакінула амаль паўстагоддзя гісторыі, ва ўмовах капіталізму дзейнічае вельмі паспяхова. Большасць грошай, якія прывозіць пенсіянерам пісьманосец, трапляе ў яе „фіскальную касу". Большасць бычкоў, якія пасуцца на лугах вакол С., пяройдзе таксама цераз Лідчыну касу. Крама ў вёсцы С. гэта не толькі месца, дзе купляюцца патрэбныя тавары. Гэта таксама дыскусійны клуб, кафэ-бар і ўстанова, якая ў Беластоку называецца agencją towarzyską. Зразумела, паслугі свайго „агенцтва" пані Лідка прапануе не ўсім наведвальнікам крамы, але некалькім старым кавалерам, а таксама і мужыкам бяззубых Гандзяў, якія маюць шанц пазнаць смак жыцця амстэрдамскіх матросаў. Шэфова, як называюць тут Лідку аматары яе прыгажосці, з'яўляецца сумленным бізнесменам. Цана ўсіх паслуг у яе краме адпостроўвае іх якасць, а таксама адпавядае заможнасці жыхароў С.

У вёсцы зрэдку наракаюць на нуднае жыццё. Заўсёды адбываюцца тут нейкія паховіны, мардабоі, спаборніцтвы ў спажыванні таннага віна ці „хрышчанай" гарэлкі.

— Я вельмі люблю слухаць нашы перадачы па радыё, — кажа былы пісьманосец Ваня. — Асабліва калі зайграюць „Дубіны", ці Лукаш са Стральцоў. Зашмат там, аднак, плятуць усялякае хярні. Нарабілася там у Беластоку ўсялякіх паслоў, паэтаў, дырэктараў і калі не ўключыш радыё пі...ць пра нейкіх беларусаў, палітыку, гісторыю. Гавораць па-свойму, але каго гэта цікавіць. Мы — простыя людзі і нам трэба так гаварыць, як калісь пісаў Дзядзька Квас. „Ніву" чытае толькі былы настаўнік і такі наш філосаф, што гарэлкі не п'е і дзяцей на дырэктараў вывучыў. Я сам газеты апошні раз купляў, як не было ў краме туалетнай паперы. Але цяпер у Лідкі ўсё ёсць, — аптымістычна завяршае Ваня.

Сябра Вані, Коля, любіць хваліцца, што працаваў у Катавіцах, Гданьску, Беластоку і быў амаль у кожнай вёсцы на Беласточчыне. Усё бачыў, амаль усё ведае, мора гарэлкі выпіў, некалькі разоў закусваў яе сабачынай. Хаця Колі набліжаецца шасцідзесятая гадавіна з дня нараджэння, у вёсцы гавораць, што плануе ён жаніцца. Удава, у яго ўзросце, хваліць Колю, што спазнала ў ім сапраўднага мужчыну. Нават вельмі п'яны патрапіць рабіць усялякія фокусы, пра якія на наступны дзень расказвае ў краме. Раней здаралася ў вёсцы, што за літр гарэлкі мужыкі старым кавалерам жонак на пару гадзін пазычалі.

— Цяпер няма ўжо парадачных хлопцаў на вёсцы, — кажа Коля. — Вып'е такі дзве бутэлькі віна і ўжо ляжыць за крамай. Шкада, што паўміралі Васька, Андрэй, Сцяпан. Выганім з імі, яшчэ, здаецца, нядаўна, два запарнікі жытнёвай самагонкі, то і тыдзень часу здаралася балявацьбез перапынку. Раз прывалокся мой сусед Міша і мы загадалі яму нарэзаць сала на закуску. Міша быў трошку падпіты, але як ён, б...ць, сабе палец тады адрэзаў, ніхто з нас не заўважыў. Пачаў толькі крычаць як дурны. Схапілі мы яго, рану пяском пасыпалі, Сцяпан абсацаў, закруцілі нейкімі шматамі і праз месяц гэтаю рукою Міша ўжо кароў даіў.

Надвор'е ў ліпені гэтага года спрыяла таму, каб заглянуць у Лідчыну краму. Дождж не дазваляў аднак весці сяброўскія размовы ў маляўнічым акружэнні гэтага найважнейшага будынка ў вёсцы. Не ўсім тады хапала месца на крэслах у краме, але ўсе выглядалі на задаволеных. Кружылі з рук у рукі бутэлькі з гарэлкай і вінам „Złota Rosa". Кожныя пару мінут выбухаў такі смех, быццам бы жарты расказваў п'яны Дрозда. Госці пані Лідкі адзначалі чарговы ўдалы дзень у сваёй біяграфіі.

**Васіль Кургановіч**

<u>**У Чыжоўскай гміне**</u>

# Дарогі і водаправоды

Самаўрадавыя ўлады Чыжоўскай гміны многа ўвагі адводзяць меліярацыі, пракладцы водаправодаў ды пабудове і аднаўленню мясцовых дарог. Чыжы — адна з багацейшых сельскагаспадарчых гмінаў Беластоцкага ваяводства. Мае яна добрыя зямельныя ўгоддзі.

— У апошнія гады мы пабудавалі 24 кіламетры водаправодаў. Ваду з крана атрымалі жыхары Гукавічаў, Курашава, Каменя, Койлаў. Ляшчынаў, Лушчоў, Асоўкі, Вежанкі, Вулькі і Буякоўшчыны. У гэтым годзе вада паплыве ў хаты ў Падрэчанах і ў Бурыцках, — кажа войт Рыгор Мацкевіч. — Пабудавалі мы 6 км гравеек у Гукавічах, Лядах і Падрэчанах, а таксама меліяравалі 200 гектараў палёў у салэцтвах Курашава і Вулька.

Цяпер найбольшай інвестыцыяй з'яўляецца пабудова ў Чыжах вялікага аб'екта, у якім будуць Гмінны асяродак культуры, Гмінная публічная бібліятэка і кнігарня, а таксама Гмінная ўправа і ЗАГС. Будуюць яшчэ Медыцынскі пункт у Кленіках (4 лекарскія кабінеты, 2 жылыя кватэры).

Варта адзначыць, што нядаўна здалі ў карыстанне клуб культуры ў Шастакове (заслуга ў тым тамашніх жыхароў ды солтыса Міхала Мароза). Вёска арганізавала ў ім 12 ліпеня г.г. народны фэст. **(гай)**

# Які сабака, такі і пан

Апошнім часам у сродках масавай інфармацыі разгарэлася дыскусія наконт небяспечных парод сабак, якія пагражаюць здароўю і жыццю людзей. Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі склала нават „чорны спісак" парод, якія прызнаюцца небяспечнымі. Трымаць такіх сабак будзе можна толькі з дазволу адміністрацыйных улад. А каб дастаць такі дазвол трэба будзе апрача метрыкі прад'явіць пасведчанне аб дрэсіроўцы і вынікі псіхалагічнага тэсту сабакі.

Сабакаводы, Таварыства апекі над жывёламі і Польскі кыналагічны саюз не згаджаюцца з занясеннем у міністэрскі „чорны спісак" аж трыццаці трох парод. На іх думку, прылічэнне да групы агрэсіўных сабак нямецкай аўчаркі ці дога бардо не з'яўляецца абгрунтаваным. Агрэсіўнасць сабакі — перш за ўсе — вынік яго выхавання, дрэсіроўкі.

Калі ўважліва разглянуцца навокал, можна з упэўненасцю сказаць, што рэальнай пагрозай у нас з'яўляюцца бяздомныя сабакі і каты, якія валэндаюцца па палях ды лясах і могуць быць крыніцай заражэння шаленствам. Ватагі бяздомных сабак бадзяюцца таксама па гарадах і мястэчках. Да мінулага года з-за санітарных прычын змагаліся з імі Польскі паляўнічы саюз і гіцлі. Сёння за здзек над жывёлай можна быць пакараным да двух гадоў турэмнага зняволення, але калі сабака пакусае чалавека, тады цяжка дабіцца кампенсацыі і пакарання ўладальніка такога сабакі, бо яны ж у нас не рэгіструюцца.

З якой мэтай тады рыхтуецца новы закон? Павінен ён у першую чаргу адхіляць бездакзных у кантактах з сабакамі людзей ад сабакаводства. Таварыства апекі над жывёламі павінна кастрыраваць або стэрылізаваць сабак, якія не надаюцца да гадоўлі. Тады не будуць узнікаць дзіўныя мяшаныя расы, над якімі цяжка запанаваць. Такі кантроль вядзецца ў ЗША. У нас пара ўжо спыніць продаж псеўдапародзістых сабак невядома якой пароды. Часта людзі купляюць на базарах шчанюкоў агрэсіўных парод, бо якраз у гэты момант яны ім спадабаліся, каб праз нейкі час, нацешыўшыся імі, выкінуць іх на вуліцу. Такія сабакі ствараюць рэальную небяспеку. Напрыклад, у маладога чалавека, які бег цераз парк, невялікі сабака разарваў бядровую вену і той абяскровіўся насмерць.

Што тады рабіць? За бяздомным ці бегаючым свабодна сабакам заўсёды стаіць чалавек. Трэба шанаваць любоў чалавека да жывёлы, але і памятаць пра бяспеку іншых людзей. Сабака ў публічным месцы павінен хадзіць на павадку і ў намордніку, асабліва агрэсіўнай пароды. Пускаць свабодна сабаку можна толькі ў бязлюдных месцах, але сабака павінен увесь час знаходзіцца ў полі зроку і слыху яго ўладальніка. Сабака павінен мець адпаведныя варункі і пра гэта павінны памятаць тыя, хто рашаецца трымаць сабаку дома. Гэта ж не цацка, але жывая істота. Людзі так павінны прывучаць сабак, каб яны былі ім паслухмяныя, бо „які сабака, такі і пан" — кажуць у народзе.

**Міхал Мінцэвіч**

# Вакол Даніловіча

Ігнат Даніловіч (1778—1843) нарадзіўся ў сям'і настаяцеля уніяцкага прыхода ў Грыневічах-Вялікіх, што пад Бельскам. Прафесар Віленскага, Харкаўскага і Кіеўскага універсітэтаў, праславіўся як выдатны знаўца гісторыі і права Вялікага княства Літоўскага. Любаваўся старабеларускай мовай, асабліва „Статута" 1588 года, блізкай яго роднай падляшскай гаворцы і жадаў адрадзіць яе да жыцця.



На жаль, беларуская гістарычная навука ўсё яшчэ не прыдае адпаведнага значэння асобе І. Даніловіча. Думка кс. Адама Станкевіча, што ён быў адным з „сапраўдных вучоных барацьбітоў за праўду аб Беларусі" ніяк не магла стаць агульнапрынятай і доўгі час хадзіла толькі беластоцкімі задворкамі.

На пераломе 50-х і 60-х гадоў Васіль Белаказовіч пачаў вяртаць памяць аб вялікіх сынах Падляшша, такіх як І. Даніловіч, на старонках „Нівы". Артыкулы вельмі спадабаліся беларускай эміграцыі на Захадзе, і, згодна з логікай тае эпохі, В. Белаказовіч мусіў змоўкнуць.

„Напісанага пяром не вырубаеш і тапаром". Я, напрыклад, быў яшчэ замалы, каб чытаць „Ніву" ў той час, але праз дваццаць з нечым гадоў прачытаў перадрук працы В. Белаказовіча ў эмігранцкай „Літве". Накапіўшы крыху ведаў, сам пачаў адстойваць важнасць у беларускай гісторыі І. Даніловіча, М. Бабр оўскага і іншых вучоных „падляшоў".

Усё ж такі ўсё, што гаворыцца пра І. Даніловіча, абаперта на ўжо накопленым навуковым матэрыяле, часта стогадовай даўнасці. Каб натхняць вучоных на новыя даследаванні, а землякоў Прафесара — на ўдзячную памяць, Беларускае гістарычнае таварыства правяло пад канец чэрвеня два мерапрыемствы: гістарычную канферэнцыю і маладзёжны навуковы летнік.

Канферэнцыя „Ігнат Даніловіч. Жыццё, справа, эпоха" адбылася ў днях 26—27 чэрвеня ў зале Музея ў Бельску-Падляшскім. Прынялі ў ёй удзел вучоныя з Польшчы, Беларусі і Расіі.

Уводны даклад пра жыццё і творчасць І. Даніловіча зачытаў нястомны праф. Васіль Белаказовіч. У пятніцу прадстаўлялася яшчэ становішча праваслаўя і уніі (Святлана Марозава, Сяргей Токць і Дарафей Фіёнік), сялянства (Уладзімір Сосна) і юрыдычна моўная практыка таго часу (Язэп Янушкевіч).

На другі дзень асвятлялася роля І. Даніловіча ў беларускім нацыянальным адраджэнні (Сяргей Габрусевіч), гістарыяграфіі (Дзмітры Караў), крыніцазнаўстве (Альбіна Семянчук, Валянцін Голубеў) і мовазнаўстве (Мікола Хаўстовіч). Побыт І. Даніловіча ў Санкт-Пецярбургу паказаў Мікола Нікалаеў.

Матэрыялы, прадстаўленыя вучонымі, пашырылі веды аб І. Даніловічу і Падляшшы ў яго час. Старонкі дакументаў адкрываюць вялікія і малыя тайны. С. Токць дакапаўся, напрыклад, да таго, што таварыш І. Даніловіча, кс. Міхайла Баброўскі, меў быццам бы трое няшлюбных дзяцей. А я думаў, што ён толькі кніжкамі займаўся...

Дыскусія пасля дакладаў атрымалася змястоўнай. Асаблівыя эмоцыі выклікала справа фармавання беларускай нацыянальнай свядомасці і ролі, якую адыграў у тым І. Даніловіч. Падводзячы вынікі дыскусіі, можна сцвердзіць, што І. Даніловіч і іншыя прафесары родам з Падляшша адыгралі важную ролю звяна між старой, літоўскай беларушчынай і беларушчынай сучаснай. Тым не менш гэтую ролю нельга разглядаць як выключную і толькі ва ўласна беларускім кантэксце. Госці аднагалосна сцвярджалі, што канферэнцыя дала ім штуршок да далейшай працы над спадчынай І. Даніловіча. Можа дачакаем калісь і кніжкі пра яго, бо такой, пакуль, могуць пахваліцца толькі літоўцы.

Моладзь, якая прымала ўдзел у гістарычным летніку „Шляхам бежанства" прысвечаным памяці І. Даніловіча, пачала працу раней за вучоных калегаў, бо з панядзелка 22 чэрвеня. Удзельнікі летніка, вучні гайнаўскага ліцэя і бельскай тройкі пасяліліся ў хаце, перададзенай ім спадарствам Навіцкімі з Грыневіч-Вялікіх. Так як летась у Войшках, штодзень ладзіліся веласіпедныя экспедыцыі ў навакольныя вёскі. Пад сяброўскім наглядам Дарафея Фіёніка, Гражыны Харытанюк і Яўгена Янчука маладыя людзі збіралі расказы людзей пра бежанства, а таксама часы санацыі, ІІ сусветнай вайны і пасляваеннай падпольшчыны. „Палявалі" таксама на старыя песні. Гэта ўжо апошні момант, бо пажылых людзей штораз менш.

Падчас паездкі, у якую я падаўся з моладдзю, аказалася, што жанчыны, якім крыху за шэсцьдзесят, ужо амаль не ведаюць старых песень. Сваімі песнямі лічаць савецкія песні пра плячыстых і галасістых танкістаў і расійскі гарадскі фальклор. Спяваюць гэтыя песні з вялікім пачуццём. І спыняць іх няёмка, і слухаць ніякавата. Старую жніўную песню пра „бел-малойчыка" прабавалі нам беспаспяхова праспяваць у дзвюх вёсках, і толькі ў трэцяй бабуля, якой дзевяноста, здолела яе праспяваць цалкам. Усё ж такі крыху песень сабралі.

Апрача экспедыцый, моладзь сустрэлася з айцом Рыгорам Сасною, Надзеяй Артымовіч і праф. Васілём Белаказовічам, а ў пятніцу прыслухоўвалася нарадам гісторыкаў.

У суботу вечарам усе сустрэліся разам у хаце спадарства Навіцкіх (дождж не дазволіў раскласці вогнішча). Да поўначы спявалі свае песні. Нечакана абʼявіўся бардаўскі талент Міколы Нікалаева з Пецярбурга, які праспяваў пад гітару палову свайго арыгінальнага рэпертуару, значыць, дзве песні. Для гасцей з Беларусі іншай нечаканасцю было існаванне вялікага тутэйшага бардаўскага рэпертуару (бо фальклор усюды падобны).

Нядзелю пачалі мы з багаслужбы ў грыневіцкай царкве, а пасля асвяцілі крыж у памяць Ігната Даніловіча, устаноўлены Беларускім гістарычным таварыствам. Крыж, у вельмі старажытнай форме, стаў побач з надмагільным каменем бацькі вучонага, Міколы.

Усё мерапрыемства закончылася аўтобуснай экскурсіяй па Падляшшы (фундаванай Управай гміны Бельск-Падляшскі). Удзельнікі маглі дакрануцца помнікаў даўніны: магілы маці Міхайлы Баброўскага ў Вульцы-Выганоўскай і яго хроснага бацькі Антона Сасноўскага ў Кляшчэлях. Заехалі і ў старажытны Драгічын.

На канец адзначу, што мерапрыемства арганізавалі бяльшчане, канферэнцыю — Славамір Іванюк, летнік — Дарафей Фіёнік, а адбылося яно дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры і мастацтва.

**Алег Латышонак**

# Было такое свята

**Хаця ў Беларусі на пачатку ліпеня праходзіла шмат святкаванняў, а сярод іх найбольш урачыстае — 3 ліпеня, Дзень вызвалення, якое ўстанавіў сам Аляксандр Лукашэнка, асаблівай памяці вартая дата 27 ліпеня 1990 г., калі Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі прыняў „Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР". Гэты дзень парламент Савецкай Беларусі ўстанавіў дзяржаўным святам і назваў яго Днём Незалежнасці.**

З камуністычнага хаосу ў 1989-1990 гадах пачалі ўзнікаць суверэнныя дзяржавы. Народы, якія чакалі свабоды, пачалі ўсімі сіламі замацоўваць сваю незалежнасць. Пачыналася вялікая перабудова сярэдняй і ўсходняй Еўропы. Выйгрывалі тыя, якія найбольш рашуча ўзяліся за рэфармаванне сваіх гаспадарчых і палітычных сістэм.

З савецкай імглы пачала таксама вырысоўвацца Беларусь. Нечакана для жыхароў гэтай рэспублікі прыйшлося ім жыць у сваёй дзяржаве. Элітам трэба было браць за ўсё адказнасць, думаць як ахоўваць межы, як накарміць разгубленае савецкае грамадства, дамаўляцца з суседзямі, у тым ліку і з вялікай Расіяй. Усе наракалі на ўсіх і на ўсё, а большасць грамадзян рэспублікі марыла аб вяртанні адышоўшай савецкай стабільнасці. Але ніхто з суседзяў не хацеў вяртання ў мінулае. Беларусь у гэтым плане аставалася адзінокай. Толькі ў Маскве былая партыйная і кадэбісцкая эліта прабавала адабраць уладу прэзідэнту Ельцыну і вярнуць камуністычную імперыю. У сталіцы Расіі не было аднак ахвотных змагацца за ідэі Леніна. Расійскай інтэлігенцыі больш падабалася свабода, чым гонар быць грамадзянінам імперыі. Пераможца Ельцын на нейкі час дэлегалізаваў Камуністычную партыю Савецкага Саюза. Усё гэтае адбывалася ў жніўні 1991 года.

У Мінску тым часам перапалоханыя камуністы, якія дамінавалі ў Вярхоўным Савеце, 25 жніўня прагаласавалі нават „Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь", прынялі пастанову аб забароне дзейнасці КПСС у органах дзяржаўнай улады, прадпрыемствах і нацыяналізацыі партыйнай маёмасці. Дэпутаты ўстанавілі таксама гістарычныя нацыянальныя сімвалы сімваламі Рэспублікі Беларусь. Каля трыццаці дэпутатаў Беларускага народнага фронту сумелі на кароткі час накіраваць Беларусь на шлях самастойнага дзяржаўнага будаўніцтва. Але асноўным фактарам спрыяючым гэтым пераўтварэнням была сітуацыя ў Расіі. У жніўні 1991 года беларускія бальшавікі гатовыя былі таксама пераканаўча крычаць „Жыве Беларусь!", так як раней крычалі „Слава КПСС, слава Савецкаму Саюзу!".

Дзень 27 ліпеня стаў святам незалежнай Беларусі. Хаця апазіцыя дэманстратыўна спасылалася да традыцый 25 Сакавіка, у свеце наогул адобрылі беларускую дзяржаўнасць, узніклую ў 1990 годзе. 27 ліпеня ў пасольстве Рэспублікі Беларусь у Варшаве тагачасны пасол Уладзімір Сянько вітаў найважнейшых асоб палітычнага жыцця Польшчы і дыпламатычных прадстаўніцтваў з цэлага свету. Гэты дзень стаў сапраўды вялікім святам народа, які вяртаўся з вялікага нябыту і пачынаў вучыцца самастойнага жыцця ў шматкаляровай Еўропе.

Першы прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прыняў іншае разуменне незалежнасці. Адкінуў 27 ліпеня, дзень які сімвалізаваў адраджэнне беларускай нацыі і пачатак шляху да дзяржаўнай незалежнасці. Устанавіў дзяржаўным святам 3 ліпеня, гадавіну вызвалення Менска з-пад нямецкай акупацыі ў 1944 годзе. Гэтая дата сімвалізуе незалежнасць Беларусі ад Нямеччыны, але і таксама пачатак яе вялікай ідэалагічнай перабудовы. Беларусь пасля вызвалення стала краінай амаль без беларускай нацыі, без беларускай мовы і без беларускай культуры. 3 ліпеня — гэта свята не беларускага народа, але савецкага грамадства. Найлепш сведчаць аб гэтым савецкія сімвалы, якія спадарожнічаюць Беларусі на шляху яе вяртання ў мінулае. Варта, аднак, памятаць, што 27 ліпеня 1990 года, як і 25 сакавіка 1918 года, Беларусь прабавала быць сабою, а беларусы намагаліся ратаваць свой нацыянальны гонар. Можа лепей будзе за трэцім разам.

**Яўген Міранові ч**

# Гайнаўскае кіно

Зараз канферэнцыйная зала Беларускага музея ў Гайнаўцы выкарыстоўваецца ў якасці залы гарадскога кіно. Па пятніцах, суботах і нядзелях паказваюцца там фільмы, прывезеныя з Беластоцкай кінасеткі. Само кіно карыстаецца датацыяй з гарадскога бюджэту. Апошнім часам паявіліся закіды, што ў Беларускім музеі ўвогуле не паказваюцца беларускія фільмы, для чаго спецыяльна з Беларусі прывезена была апаратура, а ў пераважнай большасці дэманструюцца камерцыйныя амерыканскія баявікі.

Пра гайнаўскае кіно, яго рэпертуар і планы на будучыню пытаю кінаапаратара Міхала Голуба.

— Кіно наша карыстаецца фільмамі Беластоцкай кінасеткі, а яны беларускіх фільмаў у сваім рэпертуары не маюць, а не навіна, што ва ўсіх кіно ў Польшчы большасць рэпертуару складаюць кінакарціны вытворчасці Злучаных Штатаў Амерыкі, а рэдка польскія і заходнееўрапейскія. Такая праўда, што галоўную ролю адыгрывае камерцыя. Кіно наша і ўсе іншыя ў малых гарадах не вытрымаюць без датацыі, таму і горад нас падтрымоўвае, — гаворыць Міхал Голуб. — З беларускіх фільмаў мы паказвалі толькі тыя, якія прывезлі механікі з Гродна, калі мантавалі апаратуру. Гэта было некалькі кінахронік, між іншым, пра нацыянальныя сімвалы Беларусі. Паколькі кіно існуе дзякуючы датацыі, не ведаем якая будзе яго будучыня. Зараз заказваем для школ польскія фільмы, часта звязаныя з канкрэтнай літаратурай. Што тычыцца камерцыйных фільмаў, дык прыходзіць 10-50 асоб, а часам і дастаўляем крэслы. Абслугай гледачоў займаюцца дзве асобы, бо гэтага патрабуюць правілы. Зараз уласнікам кіно з'яўляецца Грамадскі камітэт пабудовы Беларускага музея і мы з Галоўным праўленнем БГКТ выступілі да намесніка прэм'ера Беларусі Уладзіміра Замяталіна з просьбай дасылаць нам з Беларусі беларускамоўныя фільмы пачынаючы ад казак, мульцікаў, да дакументальных і мастацкіх кінастужак і атрымалі адказ, што такія фільмы пачнуць дасылаць нам ад новага года. Тады думаем стварыць у Музеі на гэтай базе беларускую фільматэку.

**Аляксей Мароз**

# У пошуках гармоніі Бельска

*Мой родны горад маленькі, маленькі як кропля дажджу*, — пісала пра Бельск Надзея Артымовіч.

Алег Кабзар прыехаў у гэты *горад маленькі* нядаўна, усяго тры гады таму. Прыехаў з Менска, дзе скончыў аддзяленне станкавага жывапісу Беларускай акадэміі мастацтваў. І захапіўся паэзіяй Надзеі Артымовіч настолькі, што першую сваю персанальную выставу ў Бельску назваў гэтай цытатай з яе верша.

— У паэзіі Надзеі Артымовіч знаходжу я метафізічную прастору гэтага невялікага старога места, — кажа Алег, — з яго асаблівымі архітэктурнымі помнікамі: старымі драўлянымі цэрквамі, ратушай з вялікім гадзіннікам і боем, дамамі з мінулага стагоддзя, вузкімі вулічкамі з варштатамі шаўцоў і невялічкімі майстэрнямі, у якіх, напрыклад, абцягваюць гузікі. Мяне на першых парах гэта ўсё вельмі здзівіляла, такога ў Беларусі я ўжо не бачыў.

У бельскіх краявідах Алега Кабзара відаць гэтае здзіўленне. Відаць таксама ўплыў вельмі асабістай паэзіі Надзеі Артымовіч, перш-наперш у суб'ектыўным бачанні навакольнага свету.

— Бывае, што малюю як быццам бачанае ў сне, — расказвае мастак. — Здаецца мне, што я жыву ў Бельску ўсё сваё жыццё, разумею яго атмасферу, ведаю такія месцы, якіх у сапраўднасці няма. Я малюю і адчуваю, што гэта Бельск. Таксама ў паэзіі Надзеі Артымовіч і Ежы Плютовіча, што б яны ні пісалі, заўсёды прысутнічае атмасфера Бельска, яго настрой.

Таму працы гэтых трох творцаў скдаліся на адну кніжку* — пра Бельск. Першапачаткова меўся выйсці толькі каталог успомненай выставы Алега Кабзара ў бельскай ратушы. Шчасліва, дзякуючы грошам Беларускага саюза і Культурнай праграмы „Бельск-Падляшскі — сэрца памежжа”, каталог пераўтварыўся ў гэтую цікавую кніжку, якая, паводле аднаго з выдаўцоў, Дарафея Фіёніка, паказвае нам гармонію духоўнай і матэрыяльнай прасторы горада.

*берагамі неспакою ўваходжу ў бязвокі гушчар*

*Może to ścieżka przy kolejowych torach aż do Żelaznego Mostu.*

*на небе расплываецца пах азёрнай пасцелі*

*Może to srebrna nitka babiego lata.*

*поўнач кідае харатство на цяжкую расу*

*Może to tylko pięciolinia dla mdłej muzyczki,/ albo błękitna wstążka, gdy rozpuściłaś włosy.*

Пераклікаюцца між сабой Надзея Артымовіч і Ежы Плютовіч. У гармоніі з імі карціны Алега Кабзара. Якасны друк кніжкі дазваляе гэта адчуць поўнасцю. Шкада толькі, што з-за неахайнай карэктуры паявілася некалькі непатрэбных памылак у тэкстах.

**Мікола Ваўранюк**

**Nadzieja Artymowicz — poezja, Jerzy Plutowicz — poezja, Oleg Kobzar — malarstwo*, Bielsk Podlaski 1998.

# Прачытаўшы „Белую вязь”

Георгій Валкавыцкі ў сваёй новай кніжцы „Белая вязь” надта цікавіцца этымалогіяй свайго прозвішча, прыводзіць змены ў яго вымаўленні: Воўкавіцькі, Ваўкавыцкі, Валкавыцкі.

Аднак яшчэ больш цікавіць аўтара „Белай вязі” генеалогія яго роду. Сцвярджае ён нават, што „склаў выклік на сваіх родзічаў”. На гэты выклік адгукнуўся ананімны аўтар з Мінска. Напісаў ён: „Дакументы, якія б высветлілі гісторыю роду Ваўкавыцкіх, знаходзяцца ў Беларускім дзяржаўным гістарычным архіве ў Гродне (...). Род Ваўкавыцкіх быў уключаны ў дваранскую радавую кнігу Гродзенскай губерні (...). Кожнае даследаванне абыходзіцца не менш чым у 100-200 долараў”.

Валкавыцкі пашкадаваў грошай і так і не даведаўся: яго род дваранскі ці халопскі?

Аўтар „Белай вязі” падбудоўвае сваё прозвішча славутым родзічам Георгіем Ваўкавыцкім, якога знайшоў у эпапеі Новікава-Прыбоя „Цусіма”. Славуты цёзка — царскі афіцэр і пазнейшы генерал польскай арміі. А да таго ж яшчэ жыў 100 гадоў! Вось дык родзіч!

І тут Валкавыцкі невядома чаму зварачаецца да маёй радаслоўнай. Ён з упэўненасцю сцвярджае, што я „прыкідваюся авечкай” і „шукаю сваіх каранёў за морам”, калі „вядома, што ў шведавай вёсцы „шведамі” называюць „шашалёў”. І „швэд” (не швед) гучыць не горш за „капусту”. Валкавыцкі адмаўляе мне права пісаць маё прозвішча праз „е”, калі яно выступала яшчэ ў майго бацькі і дзеда, а можа і раней, калі б заглыбіцца ў маю радаслоўную.

А ўсё гэта робіцца толькі таму, каб мяне прынізіць. Ён сам, змяняючы прозвішча з Ваўкавыцкага на Валкавыцкі — уцякае ад ваўка. Дык няхай хоць будзе гэты воўк у маёй эпіграме:

*Ваўкавыцькі вые воўкам*  
*І аплёўвае ўсіх лоўка.*  
*І па-воўчы ён са Шведа*  
*Зрабіў раптам караеда.*

**Віктар Швед**

# Энцыклапедыя пра беларусаў за мяжой

У хуткім часе будзе падрыхтаванае да друку энцыклапедычнае выданне пра беларускую дыяспару ў свеце.

Як паведаміў дырэктар Нацыянальнага культурна-асветнага цэнтра імя Францыска Скарыны прафесар Адам Мальдзіс, у кнізе можна будзе знайсці інфармацыю пра беларусаў асобных краінаў (як суседніх, так і ў далёкім замежжы), а таксама звесткі пра ўсе беларускія нацыянальныя арганізацыі за мяжой, перыядычныя выданні і да т.п. Асобныя артыкулы будуць прысвечаныя выдатным людзям, якія праславілі беларускую зямлю і паспрыялі развіццю іншых культур.

Па словах Адама Мальдзіса, першы том багата ілюстраванай энцыклапедыі павінен быць падрыхтаваны да канца гэтага года, а цалкам выданне ўбачыць свет у 1999 годзе. Цэнтр імя Скарыны звяртаецца да ўсіх, каму вядомыя імёны і звесткі пра незаслужана забытых суайчыннікаў за мяжой, з прапановай аб супрацоўніцтве. Кантактны тэлефон у Мінску — 220-93-50.

**БелаПАН**

*„Навіны” № 75, 15.07.1998 г.*

# У студэнты без экзаменаў

Каля 200 беларусаў з-за мяжы навучаюцца цяпер у вышэйшых навучальных установах нашай краіны.

Гэта ў асноўным прадстаўнікі беларускай дыяспары Польшчы (каля 150 чалавек), а таксама беларусы з Казахстана, Латвіі, Літвы, Малдовы, Узбекістана і Эстоніі. Як паведамілі ў Міністэрстве адукацыі, юнакі і дзяўчаты вучацца ў асноўным у Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце і Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, Брэсцкім політэхнічным інстытуце, Гродзенскім і Мінскім медычных інстытутах. „Статус гэтых маладых людзей нічым не адрозніваецца ад нашых студэнтаў: яны навучаюцца за кошт дзяржавы, атрымліваюць стыпендыю і забяспечваюцца інтэрнатам”, — адзначыў прадстаўнік міністэрства. Адзіная льгота для беларусаў замежжа ў тым, што яны паступаюць у нашыя ВНУ па-за конкурсам і без традыцыйных уступных экзаменаў.

**БелаПАН**

*„Навіны” № 69, 30.06.1998 г.*

# „Бацькаўшчына '98”

Сёлетні рэйд, арганізаваны Беларускім аб'яднаннем студэнтаў, які адбыўся ў днях ад 30 чэрвеня да 3 ліпеня, праходзіў шляхам з Дубін цераз Гайнаўку, Тапіла, Доўгі Брод, Дубічы-Царкоўныя ў Орлю. Мерапрыемства завяршылася Купаллем. Студэнтаў-вандроўнікаў сустрэў я пры піўным бары ў Дубічах-Царкоўных. Маладыя людзі пілі піва і пад гукі гітары ды пазычанага барменкай акардэона спявалі беларускія песні. Спытаў я ўдзельнікаў рэйду пра ўражанні ад турыстычнага паходу па Гайнаўшчыне і Бельшчыне. А вось запісаныя мною выказванні:

**Кася** — студэнтка русістыкі з беларусістыкай: — Я ўпершыню ўдзельнічаю ў рэйдзе і ўсё мне падабаецца.

**Ёля** — таксама студэнтка русістыкі з беларусістыкай: — Я не расчаравалася рэйдам. Вясёла бавім час. Людзей ідзе столькі, колькі трэба.

**Марк** — студэнт варшаўскай СГГВ: — Я спазнаю студэнцкае жыццё. У турпаход уключыўся я ў Доўгім Бродзе. Спадзяюся, што буду ўдзельнічаць у чарговых рэйдах.

**Аня** — студэнтка германістыкі: — Я выпадкова апынулася на гэтым рэйдзе, аднак усё мне тут вельмі падабаецца.

**Міраслаў** („Маленькі”): — Я вельмі люблю малыя кампаніі, бо тады ствараецца сімпатычная атмасфера. Людзі разумеюць тады адзін аднаго без слоў. Спадзяюся, што Купалле ў Орлі набудзе сапраўды студэнцкі характар.

**Эдыта** — студэнтка ўпраўлення і маркетынгу: — Раней удзельнічала я ў рэйдах, арганізаваных ЗБМам. На гэтым рэйдзе пануе „файная” атмасфера, толькі надвор'е магло б быць лепшае.

**Хрыстафор** (шматгадовы ўдзельнік рэйдаў): — Я свайго роду ветэран і мне ўжо гэта не навіна. Трэба хадзіць, каб пабачыць, бо гэтага нельга ні апісаць, ні расказаць.

**Ян** — студэнт-палітэміграпт: — Тут пануе цудоўная атмасфера. Пазнаёміўся я з многімі сябрамі з Польшчы, якія любяць Беларусь і беларускасць. Адчуваю сябе як дома. На Беларусі такія рэйды былі б забаронены.

**Лукаш** („Стэп”) — былы старшыя БАСу: — Я прыемна здзіўлены гэтым рэйдам, бо ў мінулым годзе мне не ўдалося яго сарганізаваць. Бачу, што БАС адраджаецца, асабліва гэта відаць у Варшаве. Мне прыкра, што ў беларускай метраполіі — Беластоку менш членаў БАСу, чым у Варшаве.

**Юрка** — работнік: — Я кінуў працу і пайшоў у паход. Гэта, мабыць, мой дваццаты рэйд. Добра, што традыцыя „Бацькаўшчыны” не прапала. Рэйды аб'ядноўваюць студэнтаў, якія вучацца ў розных гарадах. Спяваем толькі беларускія песні.

**Пятрусь** — студэнт русістыкі з беларусістыкай, акардэаніст: — Падабаюцца мне рэйды яшчэ і таму, што ходзячы па вёсках Беласточчыну знаёмлюся з дыялектамі беларускай мовы.

**Юрка** — арганізатар рэйду, старшыня БАСу: — Сёлетні рэйд нам удаўся. Мяне чакае чарговае мерапрыемства — „Басовішча”.

Думаю, што рэйд „Бацькаўшчына” будзе працягвацца. Я са свайго боку заахвочваю студэнтаў да ўдзельніцтва ў чарговых паходах. Уражанні ад рэйдаў застаюцца на ўсё жыццё.

**Славамір Кулік**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

*Загадкі*

Ні рук, ні ног не мае, а яблыкі страсае.

(вецер)

Насупіцца, нахмурыцца, у слёзы ўдарыцца, нічога не застанецца.

(хмара)

**Моніка ЯКІМЮК,**
**вуч. ПШ у Чыжах**



Фота Уладзіслава ЗАВАДСКАГА

# Што чакае вёску?

З кожным годам мяняецца воблік нашых вёсак і вясковых хат. Людзі імкнуцца зраўняцца з гараджанамі, паказаць што і на вёсцы можна зажыць папанску.

Даўней хаты будаваліся з тоўстых, смалістых сасновых бярвенняў. Вокны выходзілі заўсёды на вуліцу, а ўваход у хату быў пераважна з панадворка. Франтон часта аздабляўся разьбою. Падлога і столь былі з дошак, а на гару, на столь, сыпалі пілавінне для ацяплення.

У хаце былі сенцы, камора і адзін-два пакоі. Сенцы выкарыстоўваліся для гаспадарскіх мэт. Стаялі там вёдры, цэбры, маслабойкі. У каморы на паліцах сталі гаспадарчыя прыпасы.

Найважнейшая ў хаце была печ, якая давала цяпло, смачную ежу і здароўе. Хату ўпрыгожвалі абразы на покуце і, вядома ж, ручнікі, раней вакол абразоў і вакон, потым каля карцін і партрэтаў.

Цяпер ужо нідзе не сустрэнеце хат са страхой, а даўней кожная была пакрыта саломай.

Усё змянілася — не толькі хаты, але і самыя людзі. Старэйшыя жыхары вёскі кажуць, што цяпер сумна, нецікава. Дзесьці прапала добразычлівасць і вясёласць. Асталася ў іх толькі настальгія па мінулым.

Мы, маладыя, таксама пойдзем у горад. Што будзе з вёскай? Многія памруць натуральнай смерцю. Зарасце ўсё пустазеллем і самасеем і толькі вецер будзе шумець сярод дрэў і крыжоў — помнікаў нашых продкаў.

**Барбара КАЗІМЕРУК**

# Прамоўчаны бок С „З”.

Для мяне Сустрэчы „Зоркі” з'яўляюцца чымсьці ў якасці свята.

Чаму?

На кожных Сустрэчах я заўсёды знаёмлюся з новымі сябрамі, а новыя займальныя знаёмствы для мяне проста свята. Непаўторнае і незвычайнае даседчанне. Кажу шчыра. Чытаючы артыкулы, якія ўзніклі пасля С „З”, не бачу ў іх найважнейшага. Ніхто не хоча падзяліцца радасцю ад новых сяброўстваў ці напісаць (хаця б у літаратурным жанры) пра сваё першае каханне. Шкада, што такіх допісаў няма. Чытачы ведаюць толькі адзін бок сустрэч „Зоркі”. А я ўпэўнена, што моладзь і старэйшыя чытачы нашай газеты чакаюць загалоўкаў тыпу „Маё першае каханне”, а не „Сустрэча з прафесарам”.

Аднак хопіць ужо крытыкі! Я сама зараз напішу пра ўражанні ад новых знаёмстваў пасля XIII С „З”. У апошні раз я пазнаёмілася з трыма гайнаўскімі ліцэістамі. Хлопцы супольна выдаюць беларускую газету. Свой гурток (які прыцягвае беларусаў і сімпатыкаў беларускасці) завуць „ГРАБЛІ” — што значыць: Геніяльныя, Разумныя, Беларускія Ліцэісты. Думаю, што ўсякі каментарый тут лішні. Для знаёмства з цікавай кампаніяй чалавек зрабіў бы многае. Кожны, хто быў на Сустрэчах „Зоркі”, хацеў бы паехаць ізноў, хаця б з надзеяй пабачыцца з добрымі сябрамі. Варта супрацоўнічаць з „Зоркай”. Жадаю поспехаў усім новым карэспандэнтам-пачаткоўцам!

**Жанэта РОЛЯ**



*„Граблі”.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Прывід мышкі Пік-Пік

Вераніччын і Максімкаў Тата вельмі любіць глядзець тэлевізар. Асабліва падабаецца яму, калі ў тэлевізары паказваюць нешта страшнае — дзядзькі б'юцца, іншаземныя прыхадні людзей на кавалкі раздзіраюць, прывіды і мерцвякі за дзецьмі бегаюць... Тата сядзіць, адным вокам у тэлевізар, другім — у газету, у руцэ бутэрброд... А Веранічцы ды Максімку ад тых жахаў на экране страшна-страшна... Нават мышка пару разоў з норкі вылезла на тыя жахі паглядзець.

— Ну як, страшна? — пытаюцца ў яе Веранічка і Максімка.

— Нічога асаблівага, — фыркнула мышка. — Хіба я, самая смелая мышка ў свеце, магу спалохацца нейкіх прывідаў?

І пайшла ў норку дасыпаць.

І сніцца мышцы — а мо на самой справе робіцца? — што пайшла яна на кухню, пашукаць што-небудзь смачненькае паесці. А на стале — торцік. Прыгожы-прыгожы. З ружовымі кветачкамі з крэму. Давай мышка з'ядаць такую цудоўную прысмаку. Ела, ела... І не лезе ўжо, і пакінуць шкада. Укінула ў рот апошнюю крышынку... І тут у мышчыных вачах пацямнела, і нібыта над галавою нейкі званочак зазвінеў... І шоргат крылаў наверсе пачуўся...

Раніцой зайшла Мама на кухню сняданак рыхтаваць і закрычала:

— Ай-ай-яй! Торт забыліся ў халадзільнік паставіць, мышка Пік-Пік з'ела яго і, мусіць, атруцілася!

Прыбеглі ўсе на кухню — Тата, Веранічка, Максімка, котка Пепіта, бачаць: на стале, на пустой талерцы ляжыць дагары жыватом мышка Пік-Пік. Узяў Тата яе за хвост, прыўзняў:

— Усё. Спруцянела. Не будзе больш цукерачак па начах шукаць.

Сям'я пайшла ўрачыстым крокам у прыбіральню. Кожны сказаў пра нябожчыцу колькі добрых словаў. Тады Тата ўкінуў целца аматаркі торцікаў ва унітаз і спусціў ваду.

— Бывай, мышка. Нам будзе цябе не хапаць.

Ноччу Веранічка і Максімка прачнуліся ад таго, што па пакоі разлілося нейкае фасфарычнае ззянне. Пад самай столлю лётала нешта цёмнае, паўпразрыстае, з двума вочкамі, якія гарэлі зялёным агнём, і доўгім хвастом. „Нешта” завывала глухім голасам:

— Цуке-ерачак! Цу-ке-е-рачак!

Да раніцы сям'я не спала. Прывід лётаў па ўсіх кутах кватэры і прасіў цукерачак. Прычым калі цукеркі сапраўды былі пакладзеныя на відочнае месца, прывід не прарэагаваў на іх.

— Хто б мог падумаць, што наша мышка Пік-Пік зробіцца прывідам! — з горыччу сказаў Тата. — І як цяпер спраўляцца з такой навалай?

# Круці, ні круці

Жыў на свеце чалавек, якому было вельмі цяжка ў жыцці. Аднойчы пайшоў ён да Смерці і сказаў:

— Я хачу ісці на той свет.

Смерць была здзіўлена, што такі малады чалавек, а ўжо хоча памерці. Мужчына гаварыў, што яму вельмі цяжка, ніхто ім не цікавіцца і няма яму за што жыць.

— Найлепш будзе, як я памру, — сказаў ён.

Смерць падумала хвілінку і сказала:

— Ты будзеш працаваць доктарам!

Чалавек засмяяўся толькі:

— Я — доктарам?!

— Так, — сказала Смерць.

— Я не ўмею лячыць, ніколі чагосьці такога не рабіў! — спалохаўся чалавек.

— Не бойся, ты навучышся хутка. Калі я буду стаяць у галовах, дык з таго чалавека нічога не будзе, а калі ў нагах, тады прыпішаш яму лякарства, бо ён і так аздаравее.

Мужчына паслухаў і сказаў:

— Добра, магу спрабаваць, але калі не атрымаецца, памру.

Дамовіўся чалавек са Смерцю і пайшоў лячыць людзей. Неўзабаве стаў ён такім вядомым доктарам, што не толькі з краіны ехалі людзі, але і з усяго свету.

Мужчына лячыў шмат гадоў, разжыўся, стаў вялікім багацеем, але і пастарэў за гэты час.

Урэшце і да яго прыйшла смерць. Чалавек здзівіўся: „Дала мне работу, памагла, а тут ужо прыйшла за мною?"

— Прыйшоў час і табе развітацца са светам жывых, — паведаміла Смерць.

— Што? Ужо? Так хутка, — закрычаў чалавек у жаху.

— Так, хопіць табе ўжо гэтага добрага, — сказала Смерць і спынілася ва ўзгалоўі. Чалавек хутка абярнуўся на другі бок, а Смерць зноў перабегла ў галовы. Чалавек ізноў абярнуўся да яе нагамі. Доўга яны так бегалі, аж нарэшце Смерць стамілася і прасапла: „Ну, прыйду яшчэ па цябе" і знікла.

Чалавек засумаваў, але хутка зноў узяўся за штодзённыя заняткі.

Мінула некалькі дзён, а Смерць не ішла. Чалавек цешыўся, што яна пакінула яго і яму можна будзе далей бестурботна гуляць. Аднак ноччу Смерць з'явілася. Чалавек адплюшчыў вочы, угледзеў яе, але і не ўспеў абярнуцца да яе нагамі.

І так закончылася сумная казка пра жыццё. Круці, ні круці, а і так канчаецца яно смерцю...

**Барбара Казімерук**



*Сябры з Орлі і карэспандэнты „Зоркі". У цэнтры сядзіць Бася Казімерук.*

Фота Ганны Кандрацюк

# Вясёлы куточак

— Дзе ты была, дачушка?

— У Тані, дапамагала ёй урокі рабіць.

— Яна ж выдатніца.

— А я дапамагала ёй мае ўрокі рабіць.

* * *

— Сярожа, чаму ты кожны дзень спазняешся ў школу? Можа ў вас няма будзільніка? — пытае настаўніца.

— Ёсць, але ён звоніць, калі я сплю.

* * *

Настаўнік:

— Чаго ты так хвалюешся? Баішся маіх пытанняў?

Вучань:

— Не-е... Я баюся сваіх адказаў.

**Моніка Якімюк, Падрэчаны, вуч. ПШ у Чыжах**

## Успакойся, Паўлуша!

Пхае каляску з крыклівым сынам
Бацька, якому аж пухнуць вушы.
Ён у адчаі мармыча няспынна:
— Спакойным, спакойным
будзь, Паўлуша.

— Нядобрага маеце
Паўлушу-сына, —
Бабулька нейкая тут азвалася.
— Вы памыляецеся, жанчына,
Павал дык я, а сын мой — Вася.

**Віктар Швед**

# Польска-беларуская крыжаванка № 30

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Krzyk | | | | |
| | Mgnienie / Pokój | Skraj | | Smak / Wnuk | | Mogiła / Kasza | |
| | Okrąg | | | | | Car | |
| Źródło | | | | | | | |
| Maj | Rekin | | | | | | |
| | | | Kora | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 26**: Магіла, суп, кіт, крапіва, кат, дар. Ласка, груша, ліпа, закід, іва, янтар.

# Паэт Барыс Руско

На XIII Сустрэчах „Зоркі" 5 чэрвеня 1998 г. адбылася сустрэча з белавежскім паэтам Барысам Руско. Пры вогнішчы чытаў ён свае цудоўныя вершы. Паэт расказаў, што зараз піша ён таксама дзецям. Такім творам з'яўляецца верш „Цішок". Прысутныя на сустрэчы з паэтам Барысам Руско маглі даведацца, у які спосаб паўстаюць яго творы. Менавіта, Барыс Руско ўстае а чацвёртай гадзіне раніцы і выязджае веласіпедам у лес, у гэтак званыя месцы моцы. Пасля ён вяртаецца і піша верш. Паэт піша на чатырох мовах: польскай, беларускай, рускай і белавежскім дыялекце.

Сустрэча з паэтам Барысам Руско праходзіла ў прыемнай атмасферы і вельмі мне спадабалася.

**Давід Рошчанка**

— Але, — азвалася Мама. — На прывідную мышку ні мышалоўка, ні кот не падзейнічаюць...

— Так, — пагадзіўся Тата. — Але на прывідную мышку мусіць падзейнічаць... прывід кот!

Сямейныя моўчкі, з нейкімі нядобрымі ўсмешкамі паглядзелі на котку Пепіту.

Дарэмна бедная котка спрабавала верашчаць і паграджаць зваротам у Грынпіс. Баўтануўся кончык яе пышнага хваста ў вадазвароце унітаза — і нават развітальнага слова ніхто не сказаў.

Вечарам усе са спакойнымі сэрцамі ляглі спаць. Але апоўначы зноў прачнуліся ад глухіх завываннаў. Па пакоях лётаў прывід з доўгім хвастом і выў: „Цукерачкі!" А за ім лётаў доўгі прывід, падобны на котку з вялізнымі палаючымі вачыма, і выводзіў:

— Мы-ышку! Мы-ы-ы-шку!

Зноў сабраліся на сямейны савет.

— Цяпер трэба думаць, як пазбавіцца ад прывіду коткі... — змрочна сказала Мама.

— Эх, прывіднага сабаку б на яго наслаць, — уздыхнуў Тата. — Хіба сабака ва унітаз пралезе? — засумнявалася Веранічка.

— А вунь у суседкі такі сабачка добранькі... — задумліва сказаў Тата. — Звяглівы, шчупленькі... А катоў як ганяе!

Усе моўчкі пераглянуліся між сабою.

— То-о-бік! То-о-бік! — жаласна крычала на двары суседка, да ночы падзываючы вернага цюцьку.

Унітаз у чарговы раз сыграў пахавальную мелодыю.

Павадок ад беднага Тобіка Максімка прыстасаваў для сапраўднай каўбойскай пугі.

Апоўначы па пакоі лёталі тры прывіды. Першы гарлаў: „Цукерачак!", другі — „Мышку!", трэці — „Котку!"

— Кажуць, на прывідаў дзейнічаюць срэбныя кулі... — змрочна канстатавала Мама.

— Што ж у іх страляць, у гэтых? Бачнасць адна... — уздыхнуў Тата. — Вось... калі ва унітаз патронаў насыпаць...

Трайны крык жаху данёсся з прыбіральні. Такі гучны, што...

Мышка Пік-Пік прачнулася. Яна ляжала ў сваёй норцы, на пантофлі-канапе, жывая-жывенькая, і нават есці хацелася...

Мышка выбегла ў залу. Там перад уключаным тэлевізарам сядзеў Тата з газетай і бутэрбродам. На экране зялёны монстр ганяў нейкіх небаракаў.

— Як не сорамна! — абурана запішчэла мышка. — Там, дзе знаходзяцца дзеці і жывёлы, нельга глядзець падобныя фільмы! А то ім жахі па начах сняцца!

Тата ледзь не задушыўся сваім бутэрбродам.

Але ўсё-ткі пераключыў тэлевізар на нейкія мульцікі.

Нельга ж не прыслухацца, калі нават на мышыную псіхіку такія фільмы дзейнічаюць!

**Людміла Рублеўская**

# Не дачакаўся прызнання

*(працяг; пачатак у 28 нумары)*

**Ганна Кандрацюк:** Зацікаўленне беларускім фальклорам тут невыпадковае. У час, пра які гаворым, Пецярбургская кансерваторыя была цэнтрам, пры якім узнікалі многія нацыянальныя музычныя школы. Пачынальнікамі ў большасці былі вучні Рымскага-Карсакова, між іншым, педагог Яна Тарасевіча, прафесар Кафедры кампазіцыі Язэп Віталь, у будучыні рэктар Рыжскай кансерваторыі і пачынальнік латышскай нацыянальнай музыкі. Пад яго ўплывам Ян Тарасевіч углыбляецца ў беларускую нацыянальную музыку, збірае народныя песні і выкарыстоўвае іх у сваіх кампазіцыях. Пра Беларусь многа пішацца ў рускай прэсе. У Пецярбургу дзейнічае выдавецтва „Загляне сонца і ў наша аконца". Ёсць магчымасць пазнаёміцца з творчасцю беларускіх адраджэнцаў: Багушэвіча, Купалы, Багдановіча, Коласа.

**Анатоль Чарапінскі:** Літаратурныя зацікаўленні не абмяжоўваліся да чытання. Прафесар сам спрабаваў пісаць вершы.

***— Раней вы згадвалі пра знаёмства з Маякоўскім?***

— Тарасевіч сябраваў з Маякоўскім, хаця не захапляўся яго паэзіяй. Сам любіў класіку. У пазнейшыя гады чытаў фантастычную літаратуру, асабліва Уэльса. Цікавіўся тэатрам. Меў многа знаёмых-акцёраў у Тэатры Станіслаўскага.

***— Значыць, пабываў і ў Маскве?***

— Так. У час вайны. Калі ўспыхнула першая сусветная вайна, Тарасевіча прызвалі на фронт. Пазней ён атрымаў раненне і быў перакінуты на службу ў Камітэт дапамогі ахвярам вайны. Часта разам з мастакамі і акцёрамі ездзіў па Расіі збіраць дапамогу. Тады, між іншым, пабываў у Маскве. Меў там сардэчнага прыяцеля, ён называўся фон Віт, акцёр з Тэатра Станіслаўскага. Фон Віт меў незвычайны дар парываць сваёй гутаркай публіку. Дзякуючы яго выступленням на канцэртах і мерапрыемствах дабрачыннае таварыства збірала багатыя ўспамаганні. Аднойчы, успамінаў прафесар, ён і фон Віт трапілі на мітынг дзе прамаўляў Сталін. Сталін прамаўляў у адным баку, а фон Віт пачаў у другім. Як ён прамовіў, увесь натоўп на яго бок перайшоў. Трэба было тады хутка ўцякаць, каб прыгода добрым успамінам асталася. У Маскве сябраваў з сям'ёй Кузняцовых, знаёмымі з круга Маякоўскага. Дзве сястры і брат там былі.



*Ян Тарасевіч — 17 лістапада 1922 г., Саколка.*

***— У час вайны кампазітар быў узнагароджаны Георгіеўскім крыжам.***

— Ён заўсёды смяяўся, што выпадкова дастаў ордэн. Спачатку не хацеў яго прыняць, ну, а пазней угаварылі. А было так: прыдзялілі Тарасевічу чатырох жаўнераў і паслалі ў разведку. У пэўны момант яны падзяліліся і разышліся; Тарасевіч і два салдаты падаліся ў адзін бок, астатнія ў другі. Калі зышліся зноў, тыя другія прывялі немца. За гэта і быў Георгіеўскі крыж.

***— Ці ў час вайны кампазітар меў кантакт з музыкай?***

— Ён удзельнічаў у дабрачынных канцэртах, якія арганізаваў Камітэт дапамогі ахвярам вайны. Камітэтам кіравала дачка цара Мікалая II, вялікая княгіня Таццяна. Тарасевіч пазнаёміўся з другой дачкой цара Марыяй, паклонніцай яго таленту. Нейкі час жыў у Зімовым палацы як прыдварны піяніст. Расказваў, што выпадкова трапіў на момант, калі бальшавікі здабывалі Зімовы палац. Славуты штурм у сапраўднасці не выглядаў страшна. Проста Зімовы палац ніхто спецыяльна не бараніў. Бальшавікі ўзялі яго без змагання.

***— Трэба меціь шчасце, каб апынуцца ў цэнтры найважнейшай падзеі XX стагоддзя.***

— Сталася гэта выпадкова. Прафесар вяртаўся са службы ў Камітэце (там выпісваў пасведчанні салдатам, якія згубілі дакументы) у Зімовы палац, дзе меў свой пакойчык. Перад палацам пабачыў нейкі натоўп. Да канца не разумеў, што дзеецца. Пачакаў пакуль бальшавікі дасталіся ў палац і ўвайшоў іх следам. Бачыў як нажамі выразвалі шкуру з мэблі, рабавалі маёмасць. Пасля рэвалюцыі з'ехаў у Шындзель, на Сакольшчыну.

***— Да сям'і?***

— У Шындзелі многа змянілася. Найперш памёр прыёмны бацька, Улазоўскі — яшчэ ў часы, калі Тарасевіч у кансерваторыі быў. Улазоўскі памёр на 84 годзе жыцця. Перад смерцю, у нядзелю, спрасіў усіх сваіх сяброў і сваякоў, наладзіў ім развітальны банкет, а вечарам у аўторак загадаў эканому, каб раніцай паехаў у Саколку па труну. Памёр як і прадбачыў — у сераду на світанні. Яго магіла знаходзіцца на праваслаўных могілках у Саколцы, разам з Янам Тарасевічам і братам кампазітара Косцем. Леакадзія Улазоўская (прыёмная маці кампазітара) памерла ў час вайны. Як каталічка не падалася ў бежанства. Пахавалі яе на каталіцкіх могілках у Саколцы. Не было ў жывых і брата Сцяпана.

***— Што ўтапіўся ў Курылах?***

— Пра гэта я чуў ад людзей. Прафесар ніколі не расказваў пра смерць брата. Асталася толькі найстарэйшая сястра Ганна. Але і яна не жыла ў Шындзелі, была ўжо замужам у Латвіі. Маёнтак пасля смерці гаспадароў і вайны шмат пацярпеў. На дадатак не ўсе цешыліся з вяртання Тарасевіча. Была нават спроба скрытазабойства.

*(працяг у наступным нумары)*

**Гутарыла Ганна Кандрацюк**

# Беларускія фэсты

## У Ласінцы...

Доўгатрывалае дажджлівае надвор'е асабліва не спрые правядзенню беларускіх народных фэстаў, што адбываюцца пад адкрытым небам.

Амаль цыклічна, з паўгадзіннымі прамежкамі, наплывалі на неба гнаныя ветрам свінцовыя хмары з дакучлівай халадэчай. 12 ліпеня, у праваслаўнае свята Пятра і Паўла, на панадворку за старым школьным будынкам у Ласінцы пачынаўся народны фэст. Людзей прыйшло даволі многа і яны, пазіраючы на зменлівае неба, датрывалі да канца мерапрыемства.

Прыехаў на фэст войт гміны Нарва Ян Іванюк. Вітаючы сардэчна ўсіх прысутных ён вылучыў паслоў Сейма Рэчы Паспалітай Сяргея Плеву і Яна Сычэўскага, адначасова старшыню ГП БГКТ.

Ян Сычэўскі сцвердзіў, што фэст у роднай вёсцы Сяргея Плевы гэта яго заслуга — штогод з'яўляецца тут спонсарам — а таксама гмінных улад у Нарве.

Валянціна Ласкевіч, сакратар ГП БГКТ, на сцэну выклікала хор Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку пад мастацкім кіраўніцтвам Віктара Маланчыка з Гародні. Хор увёў навінку ў сваё выступленне — дэкламацыю фрагментаў беларускіх лірычных вершаў, якія папярэджвалі выкананне некаторых песень. У сувязі з тым, што фэст адбываўся ў свята Пятра і Паўла хор адспяваў прысвечанае ўсім імяніннікам прысутным на фэсце „Многае лета".

Падабаўся прысутным, як заўсёды, дзіцячы мастацкі калектыў са школы ў Ласінцы, якім кіруе Аліна Кос.

Чаргова выступілі „Тыневічанкі" з Тыневіч-Вялікіх з акампанементам, тым разам, Віктара Маланчыка.

З поспехам выступілі эстрадныя калектывы „Ас" і „Капры" з Беластока. Іх выступленні паскорылі продаж магнітафонных касет, якія прапанавала пры століку Марыя Паўлючук.

Надзвычай падабаўся прысутным цікавы, галасісты народны ансамбль народнай песні са Шчучына ў Беларусі, пад мастацкім кіраўніцтвам Генадзя Папова.

Пасол Сяргей Плева дзякуючы ўсім за ўдзел у фэсце пацвердзіў, што ў кастрычніку г.г. распачнецца пабудова новай школы ў Ласінцы.

## ... і ў Дубічах-Царкоўных

Пасля фэсту ў Ласінцы ўсе выступаючыя мастацкія калектывы пераехалі ў Дубічы-Царкоўныя над маляўнічае вадасховішча Бахматы. Прыбыў яшчэ мастацкі жаночы калектыў з Белавежы. Калектывы выступілі ў надта рамантычнай абстаноўцы — на малой сцэне над самой вадою.

Фэст адкрыў войт гміны Дубічы-Царкоўныя Анатоль Паўлоўскі. Прывітаў ён паслоў Сейма Сяргея Плеву і Яна Сычэўскага а таксама старшыню Рады гміны Дубічы-Царкоўныя Сяргея Нічыпарука, дырэктара Беластоцкага аддзела страхавой кампаніі „Поліса" Станіслава Лапіча, галоўнага спецыяліста гэтага аддзела Васіля Гуцько і шэфа Раённай камендатуры паліцыі ў Гайнаўцы падінспектара Станіслава Паўліка.

Фэст адбыўся ўжо без кроплі дажджу. Нягледзячы на вялікае прыхадское свята Пятра і Паўла (госці былі амаль у кожнай хаце) і на халоднае надвор'е на фэст прыйшло многа людзей, якія падмацаваныя ў хатах спіртнымі напоямі вытрымалі да канца, некаторыя з іх нават у кашулях з кароткімі рукавамі.

На фэстах падпісвалі свае кніжкі Міхась Хмялеўскі і Віктар Швед.

Пасля фэсту ўсе члены мастацкіх калектываў пасілкаваліся пры вогнішчы над вадой, а госці былі запрошаны на вячэру ў пабудаваны ля вадасховішча ўтульны дворык.

**В. Ш.**

# Беларускае свята ў Шастакове

[1 ☞ працяг]

у найбольш бачных месцах інфармуе „Gazeta Czyżowska" за чэрвень і ліпень. Газета, апрача паведамленняў і артыкулаў пра гмінныя падзеі, адводзіць таксама шмат месца беларускай культуры: ёсць артыкулы пра юбілей „Белавежы" і пра творчасць ураджэнца гміны Віктара Шведа, а таксама беларускія вершы вучаніцы з Сапава Евы Аніпчук.

Урачыстасць адкрыў войт Чыжоўскай гміны спадар Рыгор Мацкевіч, які ў сваім выступленні моцна заакцэнтаваў, што свята поўнасцю наладжана сваімі, г.зн. гміны і жыхароў Шастакова сіламі і што гэта свята ўсіх нас — беларусаў. Прывітаў ён усіх прысутных, на ганаровым месцы называючы запрошаных гасцей, сярод якіх была і войт сумежнай з Шастаковам Гайнаўскай гміны Ольга Рыгаровіч. Прадстаўнік гайнаўскага KRUS запрасіў прысутных да ўдзелу ў арганізаваным яго ўстановай конкурсе ведаў пра правілы бяспекі ў сельскай гаспадарцы. Мастацкую частку павёў на беларускай мове дырэктар Юры Якімюк.

У мастацкай праграме выступілі „Збучанкі", „Незабудкі" і „Чыжавяне" ды школьнікі з Кленік, Курашова і Чыжоў — усе з Чыжоўскай гміны! Звонку быў толькі гурт „Atut" з Бельска, які забяспечыў мерапрыемства гукаўзмацняльнаю апаратурай, на якой пасля фэсту іграў для моладзі на дыскатэцы. Мне асабліва хочацца звярнуць увагу на гэты мнагалікі ўдзел школьнікаў і іхных настаўнікаў, бо ж свята выпала ў канікулы! Выканалі яны некалькі песняў і пастановак; мяркую, што гледачам найбольш спадабалася гумарэска ў выкананні вучняў з Кленік. А з „дарослых" выканаўцаў найбольш апладысментаў атрымала „збучанка" Анна Якімюк, бо і спявала яна песні пра тое, што найбольш хвалюе людзей — пра хваляванні любві. А песні пра любоў, ці яна пафасная, ці і больш канкрэтная, надта цікавяць народ; вось калі „Збучанкі" спявалі пра нагавіцы нейкага ўхажора, седзячы перада мною мужчына сярэдняга пакалення аж падскокваў на лаве! Таксама вялікае ўзбуджэнне аўдыторыі выклікалі частушкі ў выкананні курашаўскіх „Незабудак".

Мастацкая частка закончылася традыцыйным на Беласточчыне выкананнем гімна Канстанцыі Буйло „Люблю наш край". Але гэта яшчэ не ўсё! Па заклiку адной з „Незабудак" усе прысутныя праспявалі „Многая лета" арганізатарам свята! Бо фэст быў удалы — пра гэта сведчыла радасць гледачоў.

Ужо на вуліцы спытаў я адну са сваіх ранейшых субяседніц:

— І як было?

— Ой добрэ, вэльмі добрэ!

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Свята ў Кляшчэлях

У чэрвеньскую нядзелю (21) надвор'е пакрыжавала планы арганізатарам кляшчэлеўскага фэсту, які меў быць адкрыццём летняга сезона. Мерапрыемства прадбачвалася правесці каля купальнага басейна. Мастацкую частку трэба было перанесці ў памяшканне зборнай школы. Там выступілі „Падляпскія зязюлі" з Бельска, „Клекацякі" з Гміннага асяродка культуры ў Боцьках і мясцовыя „Лясныя гномы". Кляшчэлеўская публіка з цікавасцю пaглядзела і змаганні рэпрэзентантаў клуба каратыстаў.

Мерапрыемства арганізавалі мясцовы цэнтр культуры і гміна. **(ус)**

**У польскім горадзе Шчэцін жывуць каля 50 беларусаў**

# На захадзе ад радзімы

**„У суботу Янка ехаў ля ракі, пад вярбой Алёна мыла ручнікі...” — гучала з мяккім польскім акцэнтам беларуская песня. Гаспадары хаты, Уладзімір і Алена Івашчынскія, паставілі сваю любімую касету беларускіх народных песень у выкананні гайнаўскіх музыкаў. Пад прыемны водар кавы лілася наша гутарка.**



*Уладзімір і Алена Івашчынскія любяць сустракаць гасцей.*

... У польскім горадзе Шчэцін, які знаходзіцца на заходнім ускрайку Польшчы, на мяжы з Нямеччынай, жыве каля 50 беларусаў. Але нягледзячы на досыць вялікую колькасць, свайго аб'яднання шчэцінскія беларусы не маюць, у адрозненні ад украінцаў, габрэяў, немцаў і нават сібіракоў. Беларускае асяроддзе разрознена, а самі беларусы амаль што не маюць кантактаў паміж сабой. І хаця прапанова аб стварэнні беларускага таварыства ўжо гучала з боку кіраўніка аб'яднання ўкраінцаў у Шчэціне, які згодны быў прадставіць беларускай суполцы памяшканне для сустрэч, але ж з боку саміх беларусаў актыўных пакуль што не знайшлося. Пазнаеце наш характар? Адзіным месцам, дзе могуць сустракацца выхадцы з Беларусі, з'яўляецца праваслаўная царква. Там каля 1 000 парафіянаў, большасць з якіх выхадцы з Усходу: рускія, беларусы, украінцы і іншыя.

Па-рознаму, у асноўным не проста, складаліся лёсы нашых былых суайчыннікаў. Некаторых рэпатрыявалі, некаторыя па розных абставінах пакінулі радзіму добраахвотна. Уладзімір Івашчынскі, у госці да якога я завітала, радзіму ніколі не пакідаў. Ён нарадзіўся ў 12 кіламетрах ад цяперашняй мяжы Беларусі з Польшчай, у Гайнаўцы Беластоцкага ваяводства. Скончыў беларускую пачатковую школу. Зараз пра сваю родную мову ён можа толькі ўзгадаць, настолькі далёкія былі тыя часы. Але некаторыя з яго сваякоў і па сённяшні дзень, нягледзячы на тое, што нарадзіліся і жывуць у Польшчы размаўляюць выключна па-беларуску.

— Мне нават здаецца, што ў Гайнаўцы і ва ўсіх тых мясцінах на памежжы, людзі больш захоўваюць свае беларускія традыцыі, чым жыхары самой Беларусі, — сказаў Уладзімір Івашчынскі. — Мая маці, калі глядзела рэпартаж з Менска, была здзіўлена, што ў беларускай краіне людзі не размаўляюць на роднай мове. У нашых мясцінах усе добра ведаюць беларускую мову. Ёсць тут ансамбль беларускай народнай песні. І нават у краме ці ва ўстанове вам адкажуць па-беларуску, калі вы запытаецеся.

У Шчэцін Уладзімір Івашчынскі прыехаў у 1959 годзе да сястры, якая зараз, воляю лёсу, пахаваная ў Гродне, на радзіме бацькі. У гэтым горадзе на захадзе Польшчы ён і знайшоў свой лёс. Вывучыўся, ажаніўся, зараз працуе на параходным прадпрыемстве „Еўра-Афрыка”. Дарэчы яго жонка Алена — украінка, з сям'і рэпатрыянтаў. Яе разам з бацькамі вывезлі з Заходняй Украіны падчас акцыі пад назвай „Вісла”, мэтай якой (распрацаванай вядомымі гігантамі думкі таго часу) было зруйнаваць праблему ўкраінцаў у гэтым рэгіёне, адсяліўшы іх у розныя куткі. І, як кажа Алена, іх нават не папярэдзілі, адвёўшы на зборы палову сутак.

Дарэчы, у лёсе сям'і Івашчынскіх знайшлі адлюстраванне практычна ўсе гістарычныя падзеі XX веку. Яго бабуля і дзядуля, якія жылі ў Белавежы, падчас першай вайны пакінулі родныя мясціны і пераехалі ў Саратаў. У гэтым расейскім горадзе нарадзілася маці Уладзіміра. Нядоўга сям'я вытрымала ў далечыні ад бацькаўшчыны. Праз некаторы час яны зноў вярнуліся на Беласточчыну. Але хутка новая навала прыйшла з Захаду. Пачалася другая сусветная вайна. Брат Уладзіміра загінуў у верасні 1939 года абараняючы Гродна. Дзядзька, пад канец вайны, апынуўся на Берасцейшчыне. Мірны дагавор, новыя межы... Адным словам, на радзіму з Савецкага Саюза яго больш не выпусцілі. І сваякам засталіся адны толькі братэрскія сустрэчы, якія праводзіліся раз у год уладамі абедзвюх дзяржаў у лесе пад пільным наглядам вайскоўцаў.

Дарэчы, размаўляючы з гэтымі людзьмі, станавілася балюча за жорсткую зменлівасць нашай гісторыі, за амаль што звярыныя вар'яцтвы нашых, адышоўшых у масоўку правадыроў. І не пакідаў сум за тое, што не мінуў той час, калі нехта кабінетны, ставячы свае ідэалагічныя вопыты, можа скалечыць лёсы сотняў і тысячаў людзей.

І яшчэ адзін факт з размовы з Уладзімірам Івашчынскім здаўся мне даволі важным. Ён пацвердзіў, што ў беларусаў вельмі слабое пачуццё самасвядомасці. Я спытала ў пана Уладзіміра, з кім ён сябе атаясамлівае, маючы на ўвазе ягоную нацыянальнасць. Пан Уладзімір на хвіліну задумаўся:

— Я часта пытаўся ў сваёй маці: „Хто мы такія? Беларусы? Палякі?”. — „Тутэйшыя”, — адказвала мне маці.

Слабое пачуццё самасвядомасці характэрна і для грамадзянаў самой Беларусі. Адсюль і самыя вялікія беды гэтай краіны.

**Марыя Міхайлоўская**

*„Беларускае незалежнае рэха”, № 1, чэрвень 1998 г.*

**Ад рэдакцыі:** „БНР” — гэта загаловак аднадзёнкі, якая выйшла ў Шчэціне. Падрыхтавалі яе маладыя журналісты з Беларусі, якія ўдзельнічалі ў курсах, арганізаваных Шчэцінскім фондам мясцовай дэмакратыі і рэдакцыяй „Газеты выбарчай”.

# Дом культуры — сапраўдная сям'я

**Аб ролі і супрацоўніцтве Ваяводскага асяродка анімацыі культуры з гмінннымі культурнымі ўстановамі ва ўсходняй Беласточчыне з Барбарай ПАХОЛЬСКАЙ — віцэ-дырэктарам ВААК размаўляе Міхал Мінцэвіч.**

***— Культура таксама важная ў жыцці народа як і гаспадарка. Як тады ацэньваеце стан гміннай культуры на г.зв. „усходняй сцяне”?***

— Усіх гмін у ваяводстве 55, разам з гмінай Беласток, і нельга зрабіць простае параўнанне. Напрыклад, Белавежскі асяродак культуры — вельмі элегантны, прыгожы, вялікі і дзейнічае ў вельмі актыўным асяроддзі. Там самы вялікі ў ваяводстве працэнт інтэлігенцыі ў параўнанні да агульнай колькасці насельніцтва. А калі глянуць на дзейнасць у Крынках, у якіх скромны будынак і мала інтэлігенцыі, бачыцца дысананс. Ведаю розныя дамы культуры ў краіне, бо наша ўстанова абменьваецца вопытам з іншымі ваяводствамі. Нядаўна былі мы ў Чанстахоўскім ваяводстве, дзе дамы культуры — проста палацы. Мы можам пахваліцца дамамі культуры ў Нараўцы, Белавежы, Бельску-Падляшскім, Гайнаўцы. У кожнай іншай установе маюцца нейкія дзве каштоўныя ініцыятывы.

***— На „ўсходняй сцяне” адчуваецца, аднак, адсутнасць зацікаўлення ваяводства гміннай культурай. Ці Вы цікавіцеся, напрыклад, Белавежай?***

— Раней праводзілі мы з Белавежай супольныя мерапрыемствы, напрыклад, курсы для юных спевакоў, калі ў нас яшчэ праводзіўся фестываль „Беластоцкія мальвы”. Гэты фестываль быў перанесены ў Белую-Падляшскую і памеры супрацоўніцтва скараціліся. Белавежа напэўна не нікога не наракае, бо там ёсць каму працаваць. Трэба дапамагаць тым установам, якія не спраўляюцца са сваімі абавязкамі. Роля нашага ВААКа — садзейнічаць тым, якія кульгаюць у сваёй дзейнасці, не ведаюць у якім напрамку пайсці. Маем такія дамы культуры ў нашым ваяводстве.

***— Ці гэта праўда, што сёлета праграма „Талент” не дайшла на правінцыю?***

— У гэтым годзе новы міністр культуры не праявіла цікавасці да гэтай праграмы і ўсё зацiхла. Раней, пры міністры Падканьскім, была ў нас створана камісія, якая перадала інфармацыю ў гмінныя дамы культуры і школы, сабрала прапановы наконт творцаў дастойных міністэрскіх узнагарод і перадала ўсе дакументы ў Варшаву. А ў міністэрствах культуры і мастацтва ды нацыянальнай адукацыі да гэтай пары маўчаць. Можа няма грошай? У мінулым годзе атрымалі мы 20 млн. старых злотых на гэтую акцыю (на дзве ўзнагароды), а сёлета — ні граша.

***— Белавежа вылучаецца багатай культурнай праграмай, але ў вашым календары мерапрыемстваў на гэты год памечана толькі адно...***

— Так, II Фестываль творчасці дзяцей і моладзі „Усе дзеці — нашы”. У каляндар заносім мерапрыемствы шырэйшага фармату, у якіх мы выступаем суарганізатарамі ці спонсарамі. Мы супрацоўнічаем з гміннымі культурнымі ўстановамі на прынцыпах партнёрства і не з'яўляемся для іх ваяводскімі наглядчыкамі ці кантралёрамі, як калісь. А яны ў сваю чаргу не маюць абавязку дасылаць нам свае планы ці справаздачы. Мы можам дапамагчы мерытарычна, калі гмінны асяродак культуры мае такую патрэбу.

***— А што Ваша ўстанова прапануе самадзейнікам, мастакам-аматарам?***

— Арганізуем ім Агляд аматарскай творчасці з мэтай паказаць іх шэрэйшаму свету. Пад канец чэрвеня быў падведзены вынікі сёлетняга агляду, у якім прыняло ўдзел 300 творцаў з усяго ваяводства. Надасланыя імі працы былі ацэнены і ўзнагароджаны, працуе пасляконкурсная выстаўка.

***— У Беластоку цікавяцца народнымі ўмельцамі, але не ў гмінах. Ведаю гэта сам па сабе, бо многа малюю, займаюся фатаграфіяй. У Орлі і іншых гмінах працуе многа адзінокіх мастакоў.***

— О-о-о, Орля — гэта канец свету. З гэтых бакоў заяў амаль няма. Толькі два гады таму ў нашым аглядзе прымалі ўдзел майстры па саломапляценні з Кошкаў, Рудутаў і Міклашоў. Дрэнна, што гмінныя ўлады не адводзяць культуры належнай увагі. А можа трэба стварыць у вас рэгіянальнае таварыства, такое як у Кляшчэлях, якое змагло б разварушыць мясцовае асяроддзе, стаць свайго роду дражджамі.

***— А як, на Вашу думку, павінна весціся культурная праца ў гмінах?***

— Аб усім вырашаюць кадры. Культурныя работнікі павінны ведаць што ім рабіць, бо калі не ведаюць як рабіць, тады мы ім зможам дапамагчы. Але для гэтага патрэбны пастаянны кантакт, абмен думкамі, супольныя рашэнні, так як паміж членамі добрай, згоднай сям'і. Калі ГОК не падтрымоўвае сувязей з самадзейнікамі на сваёй тэрыторыі, гэта азначае, што зрываецца тая ніць, якая павінна злучаць творцаў і арганізатараў культуры. А гэта недапушчальна!

***— Дзякую за размову.***

PS. Там, дзе няма культуры, распаўсюджваецца хамства і грубіянства. У сакавіку супольна з дырэкцыяй школы выступілі мы ў Гмінную ўправу з прапановай арганізаваць супольную фатаграфічную выставу пра гісторыю і сённяшні дзень Арлянскай зямлі. Войт і сакратар гміны праігнаравалі справу і на прапанову не адказалі.

**М. М.**

# Іх шлях пралёг праз Сібір і Берлін

**Жыхары Падляшша маюць сваіх ветэранаў вайны і працы. Многіх з іх вайна раскінула на тысячы кіламетраў ад роднага гнязда. Марыя ШАЙКОЎСКАЯ — 72-гадовая пенсіянерка, былая медсястра амбулаторыі ў Орлі так успамінае перыяд ваеннага ліхалецця:**



— Нарадзілася я 13 лютага 1926 г. ва Ужыках (цяпер Агароднікі) Бельскага павета. Пяць класаў закончыла я ў Пасынках, але ў шосты клас ужо не пайшла. Быў 1941 год. Мае бацькі, Марыя і Уладзімір Врублеўскія, мелі 24 гектары зямлі, коней і статак кароў і за гэта 20 чэрвеня гэтага ж года НКУС саслаў маці, мяне і 10-гадовую сястру Любу ў Сібір — у мясцовасць Айрот-Тура (цяпер Горна-Алтайск). Бацьку месяц раней прызвалі ў Чырвоную Армію.

У Алтайскі край везлі нас два тыдні. Эшалон з 57 таварных вагонаў цягнулі дзве лакаматывы. У вагонах ехалі разам жанчыны, дзеці і мужчыны. Спалі мы на збітых з дошак нарах, а апаражняліся цераз дзіру ў падлозе. Акенца ў вагоне было закратаванае, а дзверы канваіры зачынялі звонку. Па дарозе, а праехалі мы 5 тысяч кіламетраў, толькі некалькі разоў давалі нам кіпяток і трохі хлеба. У гэтым эшалоне былі яшчэ яўрэй Бархат з Бельска (меў краму з вопраткай насупраць ратушы), сям'я Паўлючукоў з Мора, настаўніца Марыя Врублеўская з Орлі (з дзецьмі Данусяй і Веськам).

Год жылі мы і працавалі ў саўгасе. Пасля перанеслі нас у горад Айрот-Тура. Маці стала працаваць швачкай — шыла кажухі і рукавіцы на фронт. Харчы можна было купіць толькі па талонах. Дзецям належалася 300 грамаў хлеба на дзень, а рабочым — 800. Была гэта, уласна кажучы, асноўная ежа.

Мы з сястрою хадзілі ў школу. У 1943 годзе з выдатнымі адзнакамі закончыла я дзесяцігодку і атрымала накіраванне ў ваенную акушэрска-фельчарскую школу. Мела я стаць медсястрой, а гэтая прафесія карысталася тады папулярнасцю. Са школьнага жыцця запамятаўся мне такі эпізод. Мясцовая школьная сяброўка, каб дакучыць мне, абазвала мяне словамі „ты, палячка!”. Не ведаю хто аб гэтам данёс кіраўніцтву школы, але вызвалі яе ў канцылярыю і правучылі. У школе абавязвала камсамольская форма і дысцыпліна. На экзаменах перад ваеннымі настаўнікамі адказвалі мы ў стойцы „зважай”.

Усе цэрквы былі там закрыты і перароблены на склады. Святароў перавялі на працу ў школе ў якасці свецкіх настаўнікаў. Калі на ўроку біялогіі на пытанне пра ўзнікненне чалавека адказала я, што стварыў яго Бог, настаўнік выклікаў мяне ў канцылярыю і доўга размаўляў са мною на розныя тэмы. Была я здзіўлена яго сардэчнасцю і не разумела, што магло быць прычынай такога стаўлення настаўніка да маёй асобы. Толькі пасля вяртання ў Польшчу з ліста я даведалася, што настаўнік Аляксандр Іванавіч раней быў бацюшкам.

9 мая 1945 года трэба было мне здаваць дыпломны экзамен. На калідоры наш ваенрук (ваенны кіраўнік) схапіў мяне, тройчы падкінуў угару (важыла я тады 49 кг) і сказаў: „Маруся, победа за нами! Сегодня экзамена не будет, завтра будет”. Пасля заканчэння школы, са жніўня 1945 да 15 красавіка наступнага года працавала я ў мясцовым шпіталі. Часта вазілі мы хворых у бальніцы Новасібірска, Омска і іншых гарадоў.

Вярталіся мы таксама ў таварных вагонах, але на лакаматыве лунаў ужо бела-чырвоны сцяжок. Дзвярэй вагонаў канваіры ўжо не пільнавалі. У Маскве стаялі мы два дні. Быў у нас запас харчоў, у тым ліку і амерыканскі сыр. Разам з намі ехала 1 200 яўрэяў. У ссылцы былі мы пяць гадоў. Увесь гэты час не мелі мы вестак ад бацькі. Сустрэліся з ім ужо ў Польшчы.

15 ліпеня 1946 года стала я працаваць медсястрой у Орлі, а ў снежні гэтага ж пазнаёмілася я з Аляксеем Шайкоўскім, маім будучым мужам.

У размову ўключыўся **Аляксей ШАЙКОЎСКІ** — 77-гадовы пенсіянер, ветэран ІІ сусветнай вайны.

— Восенню 1944 г. выклікалі мяне ў ваенкамат у Бельску-Падляшскім. Там нас пераначавалі ў нейкім лагеры і ўжо не адпусцілі. На другі дзень прыехала траіх чырвонаармейцаў — двое салдат і афіцэр. Трыста навабранцаў завялі яны на станцыю, пагрузілі ў амерыканскія машыны і эшалонам павезлі ў Седльцы. У казарме выстраілі нас у шарэнгу і загадалі выступіць тым, хто ўмее гаварыць па-руску. Выступіў я і некалькі хлопцаў з Бельшчыны. Узялі нас у хімічны ўзвод і правялі з намі прафесійнае абучэнне. Здавалася нам, што чакае нас непазбежная смерць.

Потым трапілі мы ў вызваленую Варшаву, на Прагу, затым пайшлі ў напрамку Одры і Ныса. І хаця Берлін быў ужо здабыты, мы яшчэ гналі немцаў аж да Эльбы. Там затрымаліся мы на двое сутак. Неўзабаве падмянілі нас рускія, бо гаварылі, што „палякі ўцякаюць да амерыканцаў”. Нас вярнулі ў Польшчу, на поўдзень. Мяне адпусцілі на 14 дзён у водпуск. Калі вярнуўся, наш узвод быў расфармаваны. Да дому вярнуўся я перад Раждаством у 1946 годзе. Тут у Орлі пазнаёміўся я з Марыяй Врублеўскай, якая ў ліпені 1947 года стала маёй жонкай.

* * *

Марыя Шайкоўская больш за сорак гадоў працавала ў ахове здароўя. Уся прафесійная дзейнасць — за выняткам чатырох гадоў (1949-1953), калі службова перавялі яе ў Сувалкі — звязана была з Орляй. Займалася яна дыспансерыйным наглядам за 4 800 жыхарамі з 15 вёсак. Наведвала яна хворых і патрабуючых апекі асоб, рабіла ўколы, пашырала санітарную асвету. За гэта былі ёй прысвоены званне „Заслужанай для здароўя народа” (1983 г.), Сярэбраны крыж заслугі (1967 г.) і іншыя ўзнагароды.

Летась спадарства Марыя і Аляксей Шайкоўскія адзначалі 50-годдзе з дня шлюбу.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Помста

З цікавасцю чытаю ўспаміны Апанаса Цыхуна п.з. „Пройдзеныя шляхі-пуцявіны”. Каб больш такіх артыкулаў у „Ніве”! Аўтар па-мастацку напісаў, як было пры панскай Польшчы, калі беларусаў не лічылі людзьмі. Аднак, як шмат іншых, знайшоўся баявы рэвалюцыянер Казімір Рагачэўскі, які сваё маладое жыццё прысвяціў барацьбе з несправядлівасцю і пагардай палякаў да беларусаў. Змагаўся за нашу волю і трагічна загінуў у няроўнай барацьбе — як адзін у полі воін. Прадалі яго свае правакатары, як некалі майго дзядзьку Мяфодзія акурат перад самым яго вяселлем з Тонькаю з Грабаўца. Рыхтаваліся да вяселля, пяклі, смажылі, купілі гарэлку пад нядзельнае вяселле, а ў суботу забралі яго на тры гады ў цяжкую турму для палітычных вязняў. Адным з даносчыкаў быў мясцовы свяшчэннік Мірон, а другім мясцовы палітыкан, які пасля выбіўся на „вялікага” камуніста.

Чытаючы ўспаміны А. Цыхуна адкрываем такую праўду, што польскія санацыйныя паліцыянты нічуць не былі лепшымі ад калег з таталітарных дзяржаў. А сёння — калі ласка — усе яны „героі” незалежнай Польшчы!

Для сапраўдных змагароў за беларускасць у Польшчы не было месца, як не было ім месца і ў Савецкім Саюзе, бо хто туды трапіў, таксама прапаў з рук энкавэдзістаў. Мяркую, што і Казімір Рагачэўскі, калі б папаў у Савецкі Саюз, куды яго думалі адправіць сябры, таксама стаў бы ахвяраю чыстак. Мы былі, ёсць і будзем між молатам і накавальняю.

На думку прыходзіць Катынь, пра які так многа трубяць у Польшчы. Я не заступнік таго, што там адбылося, але чаму нічога не пішацца пра вядомыя выхадкі ляснічых, калі наша кабеціна, згорбіўшыся, назбірала кошык ягад. Тады такі „дабрадзей” вырываў ад яе кошык і таптаў той абліты потам плён яе працы. А суддзі судзілі горш, як Пілат Хрыста, бо той хаця рукі абмыў. А афіцэры, калі іх Гітлер гнаў у верасні 1939 года, ехалі брычкамі і машынамі і нашых людзей перакрыўлялі і языкі паказвалі, калі ішла ўжо вайна. Чаму таксама не пішацца, што падчас акупацыі амаль усе служачыя на Беларусі былі палякамі.

**Мікалай Панфілюк**

Апанас Цыхун

# Пройдзеныя шляхі-пуцявіны

*(запіскі, успаміны, аўтабіяграфія)*

**Частка VII**

Мая матка Юлія Фёдараўна Цыхун, сярод вясковых жанчын таго часу, лічылася даволі адукаванай. Чытала і пісала. Навучалася самастойна каля свайго брата Максіма. Любіла чытаць кніжкі. Асабліва запомнілася мне тоўстая, вялікіх памераў яе кніга з шматлікімі ілюстрацыямі. Гэта была Біблія, старога і новага запаветаў, якую яна прывезла з Петраграда, з бежанства.

Па характары матка была вельмі добрая, вясёлая, чулая да людзей. Старалася дапамагчы кожнаму ў яго бядзе. Запомнілася мне, што ў нас часта начавалі бедныя яўрэі, якія хадзілі па вёсках і скуплялі канаплянае валакно, свіную шчэць, яйкі і іншыя дробныя рэчы. Кожнаму чалавеку спачувала, падтрымлівала яго маральна і матэрыяльна. Ведала шмат казак, баек, прыказак, прымавак. Спявала нам, брату і мне, розныя песні. Але лёс наканаваў ёй не доўга жыць. Памятаю, як яна ўзяла мяне і меншага брата — Івана, з сабой у царкву, у Лашу. Было свята, здаецца — Сёмуха. У лашскай царкве было многа людзей. Страшэнная даўка, цесната. Яна, трымаючы мяне і брата за рукі, пераступала ў царкве парог, які быў акуты жалезам. Упала на ім і рассекла да крыві сабе нагу. Пасля на гэтым месцы ўтварылася язва. Што яна не рабіла, прыкладала да раны лісты падбелу, лопуху і іншыя травы, але нічога не памагала. Язва пашыралася, страшна ёй дакучала, не давала спакою. Пасля да яе прычапілася другая хвароба, сухоты. Праз некаторы час яна ад іх і памерла, пакінуўшы нас трое дзяцей сіротамі. Мне ў той час было восем гадоў, брату — шэсць, а сястрычцы Ніне — чатыры годзікі.



*Матка Юлія Фёдараўна Краўцэвіч-Цыхун*

Пасля смерці маткі бацька ў хуткім часе аджаніўся з маладой дзяўчынай з вёскі Сухая Даліна — Барбарай Міхайлаўнай Клінкевіч. У час вяселля, у злосці на бацьку, нехта наўмысна падпаліў нашу адрыну. У выніку згарэла ўсё збожжа, сена і салома. Не было чым карміць жывёлы. Настаў цяжкі час, асабліва для нас сіротаў. Не было хлеба. Мачаха нас мала глядзела. Думала, што пасля такой хваробы, сухотаў маткі і дзеці памруць. Не выжывуць, захварэюць. Не было ў нас у той час ні бабулі, ні дзядулі, ні блізкіх людзей, якія спачувалі б сіротам. У самыя цяжкія часіны я ў думках звяртаўся да свайго дзядзькі Максіма. Даставаў з куфэрка яго фатаграфію, глядзеў на яе і мне станавілася на душы лягчэй. Ведаў, што ён адзін нам спачувае, шкадуе, але ён быў далёка ад нас. Добра памятаў я яго наказ, каб вучыўся, слухаў настаўнікаў, паважаў бацькоў і старэйшых людзей.

*(працяг будзе)*

# Як піць даць

Ведаеце, як спойваюць нявінную моладзь у Вялікабрытаніі? Нядаўна ў іхных супермаркетах паявіліся новыя ліманады. Назвы *Hooh, Rapido, Two dogs* прадказвалі, каму яны смакаваць будуць, а невялікі надпіс у ражку этыкеткі пра працэнт алкаголю (5,5%) цяжка было нават заўважыць. Прыбытак за год прынёс 280 мільёнаў фунтаў. Толькі злачынства юнака, які ап'янеў выпіўшы пару бутэлек такога ліманаду спрычыніліся да адкрыцця гэтае справы.

Вытворцы алкагольных напояў адкрыта прызнаюцца, што найбольш ідзе іх на рынак моладзі, як у Вялікабрытаніі, так і ў нас. І рэклама аплачваецца.

Але ж у нас рэклама алкагольных напояў яшчэ **праўна забаронена!** А ад аглядання саміх „піўных” рэклам на вуліцы можна самому ап'янець!

Рэклама яшчэ забаронена, піваварні аднак знайшлі спосабы абмінуць закон. Першы — гэта такі, што дадаецца ў нізе плаката маленькімі літаркамі, што піва тое — **безалкагольнае**. А бутэлька і плешка на піве працэнтным — такія ж, як і на піве безалкагольным. Другі метад — больш вытанчаны. Засноўваецца агенцыі, якія спансаруюць, напрыклад, музычныя канцэрты. Тады ў радыё, друку і тэлебачанні з'яўляюцца вялікія рэкламы канцэртаў з такімі ж вялікімі знакамі спонсара. Кожны мае права рэкламаваць **знак** свае фірмы. Можна абысці забарону рэкламы хоць бы такім чынам: так змяніць назву піваварні, каб была ў ёй ужо і назва піва: *Lech Browary Wielkopolskie.* На рэкламе можна таксама напісаць, што гэта не рэклама, але, як гэта робіць дыстрыбутар він Martini, інфармацыя пра тое, як адрозніць аўтэнтычны тавар ад фальсіфіката. Добра таксама знайсці месца ў кулінарнай кнізе, як, напрыклад, *Кампанаванне кактэйляў*, і ў ёй хопіць, калі на здымку знойдзецца плешка маркавага вырабу. Вядома, цяжэй з гэтым прадуцэнту больш моцных напояў, бо як жа ж напішаш пра „безалкагольную гарэлку”? Але і яны ўмеюць! Гледачоў праграмы „Ток-шок” з дзвацаць хвілін запэўнівалі пра адметны смак гарэлкі „Старка”, запрасіўшы ў студыю дырэктара шчэцінскага „Polmosu”, які расказваў пра 50-годдзе гэтага напою, паказваў бутэльку і знак фірмы з усіх магчычмых бакоў.

Ёсць законныя паслядоўнасці рэкламавання алкаголю. Ёсць і інстытут, які займаецца падрыхтоўкай зваротаў у пракуратуру ў справах ламання забароны. Рахунак просты: штраф за бяспраўную рэкламу — ад 10 да 50 тысяч злотых. Самі вытворцы шчыра прызнаюцца: рэкламаванне алкаголю, нягледзячы на штрафы, **аплачваецца**! Продаж можа „скочыць” на працягу некалькіх месяцаў нават на 20-30 працэнтаў! А ўлады, пасля аборцыі і люстрацыі заняліся рэкламай. Багуслаў Лінда заахвочвае курыць цыгарэты WEST, а алкаголь— Марэк Кондрат. Ці штосьці брыдкага ёсць у паводзінах вядомых людзей, якія выкарыстоўваюць, прадаюць свой твар, на якога папулярнасць самі зарабілі? Анджэй Лапіцкі выказвае свой погляд ясна: лічыць ён, што гэта від прастутуцыі артыста. Але ці яшчэ існуе штосьці такое, як этыка ці нават этас артыста? А ці мае значэнне, **што** вядомы акцёр, спявак ці спартсмен рэкламуе? Ці хтосьці мусіць гаварыць пра маральную адказнасць за факт, што прадаеш свой твар (як тавар), каб заахвоціць людзей спажываць атруту, хоць з прыгожай назвай „Premium”?

Самы часты і найбольш пастаянны госць у нашых хатах — рэклама. І паесці людзям не дае, і паразмаўляць у той час, калі ўрэшце сабраліся ўсе дома. Можна, вядома, выключыць тэлевізар ці ў яго не глядзець, але ўсё тое назойліва бамбардуе нашу свядомасць. Найгорш, што ўбіваецца гэта ў мазгі і вочы дзяцей і моладзі. І прадукты, і фірмы, і твары тых, хто рэкламуе, а маглі б яны, тыя вядомыя людзі, быць нават нейкімі аўтарытэтамі для маладога пакалення, як тыя, хто дасягнуў дабрабыт і славу сваёй працай...

Але тут, вось, зараз ізноў нехта з маладых скажа, што стары Вандал *труць* пачынае, значыць, кончылася яму дасціпнасць, *ваннею я*, значыцца, ці што?! А мяне гэтак тыя ўсе рэкламы дасталі!!! Сяджу вось увечары, ем булачку з мёдам, а тут прапануюць мне самыя добра ўпітваючыя пракладкі жаночыя, і той парашок, што ўсё высцірае, апроч кішэні, то зноў паказваць як адзяваць (ці, хутчэй, распранаць) кабету такую, бы яе толькі што з канцлагера выпусцілі... Ну, і як тут жыць смачна можна?

**Вандал Арлянскі**

# Конкурс „Нівы”

Рэдакцыя „Нівы” аб'явіла конкурс ведаў пра Беларусь. Пачынаючы з 23 нумара ад 7 чэрвеня, у дзесяці чарговых нумарах нашага штотыднёвіка змяшчаем пытанні па геаграфіі, гісторыі і культуры Беларусі. Побач друкуем тры адказы, сярод якіх правільны толькі адзін. Правільны адказ трэба пазначыць крыжыкам.

Чытачы, якія да 23 жніўня 1998 г. дашлюць у рэдакцыю дзесяць талонаў з правільнымі адказамі, возьмуць удзел у жараб'ёўцы ўзнагарод: першая — 500 зл., другая — 300 зл., дзве трэція — па 100 зл., дзве падпіскі „Ніва” на 1999 год, два энцыклапедычныя даведнікі па культуры Беларусі. Спісак узнагароджаных будзе апублікаваны ў „Ніве” ад 30 жніўня.

Талоны просім дасылаць усе разам у адным канверце з паметкай: *Конкурс „Нівы”*.

ТАЛОН № 8

## Конкурс тыднёвіка Ніва

Паэму „Пан Тадэвуш” на беларускую мову пераклаў

- ❑ Браніслаў Тарашкевіч
- ❑ Васіль Быкаў
- ❑ Ніл Гілевіч

# ВЕР — НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Мне прысніўся вельмі страшны сон. Быццам у маёй лазенцы поўна змей. Яны запоўнілі ўсю ванну, іх многа — аж кішыць. Я чую іхняе сычэнне, і мне робіцца страшна. Раптам бачу, што адна змяя вылезла з ванны і папаўзла на кухню. І ўжо яна паўзе па стале, а я не ведаю, што мне рабіць, куды ўцякаць.

А пасля, Астроне, сніцца мне такі сон: быццам я ў нейкім белым тунелі, з унукам, той тунель вельмі коўзкі. Я малога трымаю моцна за руччку, а знізу мне крычыць мой бацька, каб я трымалася, не падала. Чую, што вось-вось мне ўнучак выслізнецца і паляціць уніз, з апошніх сіл яго трымаю. Але бачу, што гэта ён мяне трымае, каб я не ўпала і не паляцела ўніз. Неяк сыходзім памалу з таго небяспечнага месца.

**Іда**

Даражэнькая! Твае сны нядобрыя. Змеі абазначаюць, што ў цябе ёсць хітрыя і злосныя ворагі, пра існаванне якіх ты можаш нават не ведаць. Ад іх можна чакаць (у лепшым выпадку) толькі фальшу і няшчырасці.

Што датычыць другога сну, дык ён абазначае нейкую слізкую справу, як і той тунель. А паколькі тунель быў белы і ты там была з унукам, дык можна было б меркаваць, што нехта з вас захварэе. Прысутнасць бацькі пацвярджае, што ты будзеш мець нейкія праблемы.

Тое, што вы ўсё ж трымалі адзін другога, каб ніхто з вас не ўпаў, ды і тое, што ўрэшце ўдалося вам сысці ўніз з таго небяспечнага месца, можа сведчыць аб тым, што з клопатамі, з усімі праблемамі ты дасі рады.

**Астрон**

# Пра помнік і выбары

**Адгалоскі**

„Idea zbudowania Pomnika Prawosławnym Mieszkańcom Białostocczyzny zabitym, zamordowanym, zamęczonym i zaginionym w latach 1939-1956 jest jak najbardziej słuszna i uzasadniona”, — піша Віктар Аўсяйчук („Ніва” н-р 20). Можа і „слушная”, але ці напэўна „абгрунтаваная”? Не такая справа простая (чытай: „Tłok na cokole” Ewy Wilk — „Polityka”, nr 18) збудаваць помнік і паставіць яго ў „centralnym punkcie miasta, na ładnym skwerze, zdobiącym ulicę Lipową...”, у Беластоку. Выглядае на тое, што хтось прыдумаў „ideę zbudowania Pomnika...”, каб убіць клін між польскую і беларускую грамадскасці на беластоцкім памежжы. Па-мойму — гэта палітычная правакацыя. Помнік з выявай Пагоні наверсе, спакон вякоў беларускім сімвалам, не вядома што мае супольнага з ідэяй помніка праваслаўным. Разумею, калі б помнік з Пагоняй быў бы прысвечаны беларусам, але праваслаўным?! Праваслаўе трэба бараніць, але не пры помачы помнікаў, толькі, напрыклад, праз захаванне перад усім мовы. На беластоцкім памежжы існуе сякая-такая раўнавага між палякамі і беларусамі. І што? Пад канец XX стагоддзя хочам збудаваць „jakąś polityczno-narodowościowo-wyznaniową barykadę”? Не трэба вялікага ўяўлення, каб бачыць як помнік што і раз будзе знішчацца „nieznanymi sprawcami”. Замест увекавечваць „zabitych, zamordowanych, zamęczonych i zaginionych” помнік станецца скулай на жывой тканцы грамадства; замест яднацца па-хрысціянску, будзем сварыцца з суседзямі.

Будаваць трэба, яднацца трэба — ідуць выбары. Будзем займацца ідэяй, а ў самаўрады будзе „выбраны” хто іншы. Беларусам Беласточчыны патрэбна ўсё, што верне жыццё ў вёскі і мястэчкі. Перад усім эканоміка, гаспадарка, беларускія школы, беларуская свядомасць, беларускія банкі і ўстановы. Так, так! Беларускія. Не хто іншы, а Каталіцкі касцёл памагаў захаваць польскасць у Велькапольшчы (Познаньскае ваяводства), калі немцы германізавалі палякаў. Царква, наша, праваслаўная размывае беларускую нацыянальнасць, хоць 98 працэнтаў праваслаўных — гэта беларусы. Калі дзеці стануць гаварыць (у Махнатым ужо гавораць) на польскай мове, то ці яны захочуць быць яшчэ праваслаўнымі? Можа першае пакаленне так, але другое, трэцяе?!

За Гайнаўкай павінны ісці іншыя гміны (гл. „Набліжаюцца выбары” ў „Ніве” н-р 23) і стварацъ беларускія выбарчыя камітэты, каб пераняць уладу. Улада — гэта стварэнне магчымасці для дзейнасці на нацыянальнай ніве: асвета, культура і ўрэшце гаспадарка. Тады можна будзе выкарыстаць немалыя грошы, якія залягаюць усялякія фонды, аб якіх піша Я. Мірановіч („Ніва”, н-р 23). Грошы патрэбны на асвету, культуру, гаспадарку ўсходняй сцяны.

**Міхась Купцэль**

PS. Аляксандр Вярбіцкі піша пра „Першы ў сезоне фэст”. Няхай будуць наступныя, арганізаваныя беларускімі выбарчымі камітэтамі. Гэта добрая нагода для прапаганды сваёй праграмы.

**М. К.**


**Ніва**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*

E-MAIL: niwa@kurier-poranny.com

INTERNET: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)

Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).

Drukarnia: „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1998 r. upływa 5 września 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1998 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка




*— Люстэрка якоесьці... тэндэнцыйнае, як думаеце?* Мал. Алега КАРПОВІЧА

__Фрашкі пра нашых__

## *У мінорным тоне*

Пакрыўдзіўся Маер,
прачытаўшы пра Мінора
У фрашцы маленькай,
што як камар коле.
Да свае натуры
меркаваўшы хворай,
Вывеў полк з гарматай,
каб пацэліць у поле.

Не ў таго страляе,
што пяром ваюе,
І дула наводзіць
не ў тыя вароты.
Больш святы за папу,
граху не даруе,
Пакажа на форуме
перш свае дурноты.

**Ванадл АРЛЯНСКІ**

# *Галерэя ратазея*

Маладая брытанская мастачка рашыла парадкам паказу мастацкага твора паказаць сябе. Яна пасадзіла сваё мастацкае цела ў шкляную скрыню ў адной з модных лонданскіх галерэй каб паклоннікі мастацтва ці, дакладней гаворачы, ратазеі мелі магчымасць штодзённа вывучаць найбольш вытанчаныя дэталі такога нетэкстыльнага экспаната. Эх, эх! Колькі ж невядомых мастакоў на свеце.

Нямецкае сужонства некалькі тыдняў жыло ў вялікім універсальным магазіне: спалі, елі, чыталі, глядзелі тэлебачанне — усё гэта рабілася на вачах пакупнікоў.

Васемнаццацігодкі Дыяна і Майк рашылі абнародаваць па Інтэрнеце, як гэта ў іх было „першы раз". Яны прытрымоўваюцца прынцыпу, што ў сексе няма нічога такога, чаго б трэба было саромецца. А хто з саноўнейшых чытачоў не ведае, як гэта першы раз бывае, а вельмі ж таго цікавы, хай тады 5 жніўня загляне на старонку *www.ourfirsttime.com.* З дому не трэба выходзіць, каб усё гэта пабачыць; не тое, што ездзіць у лонданскую галерэю ці нямецкі універмаг.

Даўней такога не бывала, прынамсі ў нашай кліматычнай зоне. Наадварот, самыя выдатныя асобы намагаліся прыхаваць усё інтымнае ці сарамлівае, не толькі апранаючыся вельмі старанна, але і сочачы за тым, каб не выносіць смецце з хаты. Ды і сёння культурныя нормы не надта змяніліся, прынамсі ў дачыненні да людзей, якія ўладныя вырашаць пра чый-небудзь лёс; хопіць паглядзець, як намагаюцца падабацца электарату розныя кандыдаты на выбарных уладароў. І каб каго-небудзь сяк-так культурнага дабравольна давесці да бессаромнасці, трэба ўжываць хітрыкаў.

У адной нарвежскай народнай казцы расказваецца, як дзве жанчыны паспрачаліся пра тое, чый муж больш наіўны. Адна з іх, вярнуўшыся дадому, унушыла свайму мужу, што ён смяротна хворы, і пераканала яго легчы ў труну, у якой былі адтуліны каб, вядома, не задушыўся. А другая, вярнуўшыся дадому, села прасці. Муж пытае яе, чаму прадзе без кудзелі, а яна адказвае яму, што пража ёсць, і вельмі прыгожая, толькі ён тае пражы не бачыць. Пасля села на кросны, нібы ткаць, а далей узяла ножніцы, „скроіла" і пашыла „касцюм" свайму мужу. Мужавы сумненні канчаткова развеяла запэўніваючы яго, што матэрыял такі далікатны, што не адчуваецца яго дотыкам. І нанец загадала яму ісці на пахавіны мужа сваёй сяброўкі, але толькі ў новым касцюме. Скінуў ён стары, апрануў „новы" і падаўся на сумную ўрачыстасць. А там усе хіхікаюць, а „нябожчык", які яго цераз адтуліну ўбачыў, скінуў покрыўку, перапрасіў жалобнікаў, і папрасіў дазволіць яму яшчэ хвіліну выраготацца. Здзіўлены госць спытаў прысутных, чаму яны, замест плакаць, смяюцца. А „нябожчык" адказаў яму, што плач яшчэ нікога не падняў з труны.

Магчыма, што гэтая, скандынаўская, казка навеяла славутаму датчаніну пісьменніку Хансу Крысціяну Андэрсену сюжэт шырокавядомай яго казкі „Новая вопратка імператара". І таго казачнага імператара нейкія чужыя хітруны апранулі так, як адна са згаданых жонак свайго мужа. І хадзіў ён важна перад усім народам і ніхто з ягонай знаці не пасмеў сказаць, што кіраўнік дзяржавы папросту голы.

Тканіна, вынік карпатлівага вырабу, з'яўляецца вопраткай целу. Культура, вынік карпатлівага выхавання, з'яўляецца свайго роду вопраткай характару. А вытанчаную культуру, бывае, называюць дыпламатыяй. Дыпламатычны скандал абазначае ў такім выпадку бескультур'е. І штоб ні гаварыў першы дыпламат Іван Антановіч пра дастойнасці свайго кіраўніка дзяржавы, ён на свой спосаб голенькі, як Андэрсенаў імператара.

А, дарэчы, ці ж трэба нам заглядаць у скандынаўскую творчасць, быццам не было на гэты конт свае? Калі ласка: „Галасістая радасць дзесяцігадовага палкоўніка Сашкі, які разграміў снежкамі каманду Шамруховых дзяцей. На яго глядзіць з перапалохам певень пад страхою, прыталіся ў ценю парасяты, перасталі часацца вераб'і на бярозе, чарада гусей анямела ля студні. Усе глядзяць на Сашку. Прыбеглі пагглядзець на Сашку Віця, Ваня, Надзя..." („Гульні нібы дзіцячыя" са зб. „Загоны", Беласток, 1969 г.).

Быццам у модную лонданскую галерэю.

**Адам МАНЬЯК**

# *Крыжаванка*



**Гарызантальна:** артыст хору, 7. Міхаіл, беларускі жывапісец (1881—1974), 8. лятальны апарат з рэактыўным рухавіком, 9. прыбаўка, 10. са сталіцаю ў Рыме, 14. не гамеапат, 18. жыхарка Ерэвана, 19. драпежная птушка, 20. вялікае задавальненне, 21. час найвышэйшага напружання.

**Вертыкальна:** 1. паступовае асяданне грунту, 2. маркотны настрой, 3. падвесны асвятляльны прыбор з некалькімі лямпамі, 4. адхарквяемая макрота, 5. двухколавая каляска з запрэжаным чалавекам, 6. 24 гадзіны, 11. старадаўні ўдарны музычны інструмент, 12. вялікі ваенны карабель, 13. чорная таполя, 15. пяшчотнасць, ветлівасць, 16. госць на ... — радасць у хату, 17. абоз перасяленцаў. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 24 нумара**

**Гарызантальна:** сват, варан, рытуал, яшма, санет, Валдай, чапараль, сорам, Катманду, пастулат, накат, дыктатар, Тырана, хамут, скат, Пагоня, хітон, Кіта.

**Вертыкальна:** малако, галеча, вышчарка, трава, столь, капар, тамбурын, альманах, сапа, раса, знак, фунт, атрамант, арахіс, агурок, шышак, дакор, касяк.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Міхалу Байко** з Беластока.

# *„Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка*

Сужонская сварка:

— Ці ведаеш прынамсі, колькі мне гадоў?! — пытае жонка.

— Не, але ведаю, колькі хацела б мець.

* * *

— Пачакай са сваркаю, — просіць муж, — аж нікога дома не будзе.

— То ж нікога няма, толькі мы ўдваіх.

— А я!

* * *

— Які падарак прасіла ў цябе твая жонка на імяніны?

— Хацела нешта на шыю і руку.

— І ты купіў ёй каралі і браслет?

— Не, падараваў ёй мыла.

* * *

Шатландзец пытае таксіста:

— Колькі будзе ў вас каштаваць курс на вакзал?

— Дарослыя плацяць па тры фунты, а дзеці вязу дарам.

— Дык мы пойдзем пехатою, — кажа шатландзец жонцы, — а дзеці няхай едуць на таксі.

* * *

— Шаноўная пані мае вельмі прыгожыя зубы!

— Гэта па маме...

— І пасавалі?

* * *

З чыгуначнай станцыі прапала цыстэрна спірту. Паліцыя праводзіць даследаванне, у выніку якога падазрэнне падае на Сцёпу. Паліцыянты будзяць яго:

— Дзе спірт? — пытаюць.

— Украў ды прадаў, — прызнаецца Сцёпа.

— А дзе грошы?

— Прапіў.

* * *

Ксёндз ладзіць плот каля прыхадскога дома. Акружыла яго чарада пацаноў.

— Што, мае дзеткі, — звяртаецца да іх ксёндз, — хочаце навучыцца ўбіваць цвікі?

— Не, мы хочам пачуць, што ксёндз скажа, калі пападзе малатком у палец.